ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 5 (2563)

5 лютага 1998 г.
Выдаецца з 1955 г.

Цана 1500 рублёў.

## З ФОТААПАРАТАМ ПА СЛОНІМЕ




Слонім. Пабудова 1905 года.

Фота Віктара СТАВЕРА.

# ГОРАД БАГАТАЙ ГІСТОРЫІ

Справядліва кажуць, што першае ўражанне самае моцнае. У Слоніме я пабываў першы раз каля сарака гадоў таму назад. Прыемна ўразіла яго ўтульнасць, архітэктурная разнастайнасць старых пабудоў, багацце зеляніны. Пасля кожны прыезд умацоўваў першае ўражанне, даваў магчымасць больш пазнаваць горад, яго гісторыю, людзей.

У Іпацьеўскім летапісе Слонім упамінаецца пад 1252 годам. Аднак гэта не час "нараджэння" горада: архітэктурныя раскопкі сведчаць, што ён існаваў ужо ў XI стагоддзі. У склад Вялікага Княства Літоўскага Слонім увайшоў у другой палове XIII стагоддзя.

Лёс яго быў цесна звязаны з лёсам беларускай зямлі. Войны, пажары, эпідэміі наносілі яму і яго жыхарам вялікую шкоду. Слонім, нягледзячы ні на што, рос, развіваўся, узбагачаўся матэрыяльна і духоўна.

І па сённяшні дзень захаваліся некаторыя старыя пабудовы, іншыя знішчаны часам, людзьмі. Адной з адметнасцей быў ніжні замак. Гэта цэнтр старажытнага Слоніма, шэрагу палацава-замкавых комплексаў (XI—XVIII стагоддзі). Спачатку тут было гарадзішча, пасля драўляны замак, які ў 1520 перабудава-

(Заканчэнне на 3-й стар.).

## АДБЫЎСЯ ЧАРГОВЫ З'ЕЗД САЮЗА КАМПАЗІТАРАЎ

# ЖЫЦЦЁ І МУЗЫКА

**У студзені прайшоў з'езд Саюза кампазітараў Беларусі. Наш карэспандэнт сустрэўся з папулярным кампазітарам, заслужаным дзеячам мастацтва, лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі Беларусі 1994 года Леанідам ЗАХЛЕЎНЫМ.**

***— Леанід Канстанцінавіч, якое ўражанне засталося ў вас ад з'езда?***

— Мяне не пакідае ўражанне, што адбылося свята. З'езд паказаў, што калі ў цэлым наша культура знаходзіцца быццам бы на абочыне, то кампазітары працягваюць актыўную творчую дзейнасць. За чатыры гады, якія прайшлі паміж з'ездамі, з'явіліся вельмі цікавыя і значныя музычныя творы сталых кампазітараў і моладзі.

З'езд пацвердзіў неабходнасць існавання Саюза кампазітараў, хаця і былі прапановы самараспусціцца. Мне такія прапановы здаюцца неразважлівымі. Распусцімся, застанецца кожны сам-насам. Гэта дрэнна не таму, што трэба аб'ядноўвацца, каб з некім змагацца, а таму што ўзаемадзеянне, творчыя зносіны ўзбагачаюць, даюць магчымасць самавыказацца, цікава жыць. Так заўсёды бывае, калі збіраюцца аднадумцы. Таму, як мне здалося, з'езд кампазітараў прайшоў на ўзвышанай ноце, без эмоцый згасання, чаго я, шчыра кажучы, трошкі апасаўся. Мяне і цяпер не пакідае адчуванне, што свята атрымалася.

***— Колькі членаў у беларускім Саюзе кампазітараў?***

— Больш за сто. Восем кампазітараў жывуць за рубяжом — у Амерыцы, Ізраілі, Германіі...

***— Як нацыянальная тэма адлюстроўваецца ў сучаснай творчасці кампазітараў?***

— Што тычыцца музыкі — яна ўся створана на нацыянальнай глебе. Возьмем харавыя творы, і нават вакальна-сімфанічныя — там многа нацыянальнага матэрыялу. Тэксты да музычных твораў ёсць і рускія, і беларускія. Увагу на гэтым не акцэнтуем. Важная сама якасць твора.

***— Вы, Леанід Канстанцінавіч, атрымалі Дзяржаўную прэмію за...***

— ...За цыкл песень і яшчэ за зборнік дзіцячых песень "Вераснёвы вальс". Усе песні на беларускай мове. Мова мне гэтая вельмі блізкая, стаўлюся да яе з павагай, атрымліваю задавальненне, калі чую добрую беларускую гаворку, хаця сам пакуль што валодаю ёю недасканала. Самае галоўнае, думаю, каб у аўтара былі

(Заканчэнне на 6-й стар.).

## ЦЭНТРАЛЬНЫ БАТАНІЧНЫ САД

# ПРАЦА Ў ТРОХ НАПРАМКАХ

Сёння Цэнтральны батанічны сад Нацыянальнай акадэміі навук Рэспублікі Беларусь мае статус навукова-даследчага інстытута. Праца там вядзецца па трох асноўных напрамках: зялёнае будаўніцтва, інтрадукцыя і акліматызацыя раслін і ахова навакольнага асяроддзя. Па кожнай з гэтых праблем маецца цэлы шэраг паспяховых распрацовак. У паняцце зялёнае будаўніцтва ўваходзіць распрацоўка асартыменту для азелянення буйных прамысловых цэнтраў, гарадоў і пасёлкаў Беларусі. Каб рэкамендаваць для насаджэнняў тыя ці іншыя сарты, фізіёлагі, эколагі, а затым батанікі і дэндролагі вывучаюць газаўстойлівасць, газапаглынальныя здольнасці, дэкаратыўныя і іншыя якасці тых ці іншых раслін. Пасля гэтага сфарміраваны імі асартымент, які налічвае 350 драўнінна-хмызняковых раслін, рэкамендуецца для праектных інстытутаў, якія займаюцца ландшафтнай архітэктурай.

У Беларусі ёсць цэлы шэраг шкодных для навакольнага асяроддзя хімічных вытворчасцей. Каб вырашыць праблему зялёных насаджэнняў на тэрыторыі Светлагорскага завода штучнага валакна, батанікі сада працавалі 10 гадоў. Праблема заключалася ў тым, каб падабраць асартымент драўнінных, хмызняковых, кветкавадэкаратыўных раслін, якія змаглі б паглынаць значную колькасць прамысловых выкідаў гэтага прадпрыемства і поўнасцю аптымізаваць навакольнае асяроддзе як на тэрыторыі завода, так і ў прылеглых да яго раёнах. Для прадпрыемстваў Гродна, Магілёўскага завода штучнага валакна, Полацкага нафтаперапрацоўчага завода быў распрацаваны спецыяльны асартымент раслін, якія могуць расці і прадуцыраваць ва ўмовах павышанага забруджвання навакольнага асяроддзя. Аднак асноўным напрамкам працы Бата-

(Заканчэнне на 3-й стар.).

## ПАШТОЎКА З БЕЛАРУСІ



**ВЕРНЫ СЯБРА**

**(селянін калгаса імя Урыцкага Гомельскага раёна, а цяпер пенсіянер Анатоль Зайцаў з надзейным памочнікам ва ўсіх працоўных справах канём Буянам).**

Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.

ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

БЕЛАРУСЬ — КІТАЙ

## У АДНОСІНАХ ПРАБЛЕМ НЯМА

"Вы многае зрабілі для плённага развіцця беларуска-кітайскіх адносінаў", — такую ацэнку даў прэм'ер-міністр Беларусі Сяргей Лінг трохгадовай рабоце ў нашай краіне Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла КНР Чжао Сідзі ў час іх сустрэчы 27 студзеня. Кіраўнік урада адзначыў высокі ўзровень палітычных, эканамічных і культурных кантактаў дзвюх краін. "У нас супадаюць пазіцыі па палітычных пытаннях, а таксама па тым, як павінны развівацца эканамічныя рэформы, — падкрэсліў Сяргей Лінг. — Мы лёгка знаходзім разуменне па самых складаных праблемах".

Прэм'ер-міністр высока ацаніў і далейшыя перспектывы двухбаковага беларуска-кітайскага супрацоўніцтва. Тым больш, што для гэтага ёсць усе падставы: у лепшы бок мяняецца тавараабарот, які, дарэчы, у мінулым годзе са студзеня па лістапад склаў 90 мільёнаў 741 тысячу долараў ЗША. У Кітаі з задавальненнем купляюць нашы калійныя ўгнаенні, "БелАЗы", а для Беларусі карысны вопыт гэтай дзяржавы ў развіцці свабодных эканамічных зон.

Як вядома, Чжао Сідзі ў лютым пакідае Беларусь. У сувязі з гэтым ён адзначыў, што яму сумна расставацца з нашай гасціннай краінай. "Гады, праведзеныя на беларускай зямлі, сталі для мяне важнымі і значнымі. Дзе б я ні працаваў, я з задавальненнем буду ўспамінаць пра іх", — сказаў Чжао Сідзі.

АПЫТАННЕ

## АРЫЕНЦІРЫ МАЛАДЫХ

Вывучаючы праблемы сучаснай моладзі, вучоныя Інстытута сацыялогіі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі правялі апытанне шасцісот юнакоў і дзяўчат Мінска і Мінскай вобласці.

Сярод пытанняў анкеты было і такое: "Знаёмствам з якімі асобамі ганарыцца, на ваш погляд, сучасная моладзь?" Характэрна, што ў адказах лідзіруюць так званыя "крутыя" хлопцы і тыя, у каго водзяцца вялікія грошы: на іх указалі адпаведна 44 і 43 працэнты рэспандэнтаў. Кожны трэці апытаны адзначыў, што сучасная моладзь ганарыцца знаёмствам з бізнесменамі (36 працэнтаў) і артыстамі, музыкантамі (33 працэнты). 29 працэнтаў выдзелілі "новых рускіх" ("беларусаў"). Спіс прэстыжных знаёмстваў сучаснай моладзі замыкаюць папулярныя палітыкі (8 працэнтаў) і вядомыя вучоныя (4 працэнты).

ЭКАЛАГІЧНА ЧЫСТЫ



Ужо тры гады бульбаводы калгаса "40 год Кастрычніка" Іванаўскага раёна вырошчваюць у сваёй лабараторыі экалагічна чысты пасяўны матэрыял. За гэты час выпрабавана 14 сартоў бульбы. Адабраны матэрыял не схільны да многіх захворванняў, забяспечвае высокі ўраджай. Па 300 цэнтнераў з гектара даюць айчынныя сарты "выток", "явар", "лазурны", "мілавіца", а "скарб" — і ўсе 450 цэнтнераў. Калгасныя бульбаводы паспяхова супрацоўнічаюць з Беларускім навукова-даследчым інстытутам бульбаводства.

НА ЗДЫМКУ: у калгаснай лабараторыі (злева направа) загадчык Генадзь СТРОК, старшы лабарант Тамара ВАСІЛЕВІЧ і лабарант Таццяна МАСКАЛЮК.

"БЕЛНАФТАХІМ"

## НЕ ДАЦЯГНУЛІ

Як паведаміў прэзідэнт канцэрна "Белнафтахім" Іван Бамбіза на нарадзе дырэктараў прадпрыемстваў, летась выпушчана прамысловай прадукцыі ў супастаўных цэнах на суму 64,8 трыльёна рублёў, рост аб'ёмаў вытворчасці склаў 106,1 працэнта.

Па яго словах, нафтаперапрацоўчая прамысловасць рэспублікі не дасягнула планаваных паказчыкаў па прычыне зніжэння перапрацоўкі нафты. І. Бамбіза лічыць, што беларускія НПЗ справіліся б з задачай, калі б не паступіла нафтавай сыравіны на 5 працэнтаў менш, чым было прадугледжана адзіным паліўна-энергетычным балансам Беларусі і Расіі (10,5 мільёна тон замест 11 мільёнаў тон).

Прэзідэнт канцэрна адзначыў, што, нягледзячы на пэўныя апасенні, якія заўсёды ёсць у нафтаперапрацоўшчыкаў на пачатку года, у студзені ВА "Нафтан" і АТ "Мазырскі НПЗ" працуюць у нармальным рэжыме. Аднак, як заявіў І. Бамбіза, "супакойвацца рана", таму што ўжо ў бліжэйшы час могуць узнікнуць праблемы з пастаўкамі расійскай нафты, звязаныя з увядзеннем у Беларусі новага Закона "Аб акцызах".

ТАЛЕНАВІТАЯ СЯМ'Я



Вы ўтульнай музычнай гасцінай у Віцебску адкрылася выстава работ мастакоў Сянько. Свае творы на суд гледачоў прадставілі мама Лілія Іванаўна, бацька Сцяпан Аляксандравіч — выкладчыкі мастацкай школы і іх дзеці Дзіяна і Дзмітрый.

НА ЗДЫМКУ: сям'я СЯНЬКО.

КОНСУЛЬСКІЯ ПАСЛУГІ

## ЛЮБІШ ВАЯЖ...

Новы тарыф консульскага збору, які бярэцца пры звяртанні па выдачу неімігацыйнай візы ЗША, а таксама новыя тарыфы збораў за прадастаўленне натарыяльных і іншых консульскіх паслуг уводзяцца з 1 лютага. Збор, што бярэцца пры звяртанні па візу, будзе складаць з сённяшняга дня 45 долараў ЗША замест ранейшых 20.

КАШАЛЁК

## ПА ПРАЦЫ І ЗАРОБКІ

Па даных статыстыкі, у снежні самую высокую зарплату ў Салігорску мелі калійшчыкі — 9 752 тысячы рублёў.

Не дзіўна — у мінулым годзе "Беларуськалій" больш чым на 20 працэнтаў павялічыў экспарт сваёй прадукцыі, паставіў спажыўцам на 530 тысяч тон угнаенняў больш, чым у годзе папярэднім. Нечаканасцю для многіх стала тое, што толькі на сотню тысяч рублёў уступілі калійшчыкам у сваёй зарплаце работнікі ўпраўлення "Белсантэхмантаж", якія таксама адчувальна прыбавілі ў рабоце. На трэцім месцы трэст "Шахтаспецбуд" — сярэдняя зарплата склала 6 348 тысяч.

СКАНДАЛЬНАЯ СПРАВА

## ШАРАМЕТУ І ЗАВАДСКАМУ ВЫНЕСЕНЫ ПРЫГАВОРЫ

Ашмянскі раённы суд вынес прыгавор журналістам ГРТ Паўлу Шарамету і Дзмітрыю Завадскаму, якія абвінавачваліся ў незаконным пераходзе дзяржаўнай мяжы. Павел Шарамет прыгавораны да двух гадоў пазбаўлення волі з выпрабавальным тэрмінам на год. Дзмітрыю Завадскаму таксама вынесены ўмоўны прыгавор паўтара года. У сваім рашэнні Ашмянскі раённы суд вынес прыватнае вызначэнне ў адрас Генеральнага пракурора рэспублікі па сутнасці парушэнняў, якія былі допушчаны следствам па ўказанай справе.

Падсудныя не лічаць сябе вінаватымі. Тэлекампанія ГРТ заявіла, што будзе дабівацца перагляду прыгавора.

ЖАНЧЫНА ГОДА

## ВІЦЕБСКАЯ АКТРЫСА СВЯТЛАНА АКРУЖНАЯ

Эксперты Кембрыджскага навуковага цэнтра назвалі актрысу Беларускага акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа з Віцебска Святлану Акружную жанчынай 1997—1998 гадоў. Яе імя будзе занесена ў спіс "2000 самых вядомых людзей свету", што складаецца ў Вялікабрытаніі.

Вывучыўшы анкету віцебскай актрысы, журы ў складзе вучоных Кембрыджскага універсітэта і дзеячаў культуры цэлага шэрагу краін палічыла лёс і дзейнасць прэтэндэнткі дастойнымі ганаровага спіса і звання жанчыны года. На такое рашэнне паўплывала і тое, што тэатральны эксперт Савета Еўропы, рэжысёр парыжскага тэатра "Адэон" М. Элі прызнала Акружную адной з лепшых актрыс кантынента за выкананне галоўнай ролі ў спектаклі "Сродак Макрапуласа" па п'есе класіка чэшскай і сусветнай літаратуры К. Чапека (пастаноўка Мікалая Пінігіна).

З НОВЫМ ГОДАМ!

## ЦЭНЫ ЎСЁ ПАЎЗУЦЬ УВЕРХ

За два тыдні студзеня ўзровень інфляцыі ў краіне склаў 1,1 працэнта. Паводле даных Міністэрства статыстыкі і аналізу, па-ранейшаму больш за ўсё растуць цэны на харчовыя тавары. Напрыклад, хлеб жытні масавых сартоў тыпу "Прыдняпроўскі", "Жнівеньскі" падаражэў за чатырнаццаць дзён гэтага месяца на 2,1 працэнта, бульба — на 5,2, плодаагародніная прадукцыя — на 7,2 працэнта. Не мяняліся цэннікі толькі на гарэлку. Нязначна патаннелі кансервы з агародніны, мука пшанічная і проса шліфаванае.

Змяніліся цэны і на некаторыя віды паслуг. Асабліва адчувальныя яны ў сувязістаў: кошт адной хвіліны міжгародняй тэлефоннай размовы павысіўся на 8,1 працэнта. На 1,4 працэнта падаражэў зварот да бытавікоў. Але больш за ўсё ўдарыла па кішэні бацькоў утрыманне дзяцей у дашкольных установах. Іх паслугі цяпер каштуюць на 24,7 працэнта больш.

ПРАМЯНЁВАЯ ДЫЯГНОСТЫКА





Аддзел прамянёвай дыягностыкі клінікі НДІ радыяцыйнай медыцыны і эндакрыналогіі абслугоўвае 27 ляцэбных устаноў Міністэрства аховы здароўя. Толькі на ядзерна-магнітна-рэзанансным тамографе за тры гады працы абследавана больш за 7,5 тысячы чалавек. Гэты метад дыягностыкі вельмі дарагі, таму абследаванне прахозяць толькі цяжкія хворыя, якіх накіроўваюць вядучыя спецыялісты Беларусі для пастаноўкі канчатковага дыягназу. Высокая якасць абследаванняў аддзела прамянёвай дыягностыкі, а гэта адзначаюць як свае, так і замежныя спецыялісты, абумоўлена перш за ўсё адладжанай сістэмай падбору высокакваліфікаваных кадраў. Усе спецыялісты па прамянёвай дыягностыцы прайшлі стажыроўку ў нямецкай клініцы горада Ротэнбурга. Загадчык аддзялення Вадзім Петухоў таксама стажыраваўся ў лепшых клініках Германіі, Італіі.

На базе аддзела створаны "Філіпс-клуб", членамі якога з'яўляюцца вядучыя спецыялісты, якія валодаюць сучаснымі метадамі прамянёвай дыягностыкі. Выпускаецца часопіс "Пытанні інтэрвенцыйнай" ... "Пытанні інтэраскапіі". Летам на базе НДІ і клінікі Ротэнбурга пройдзе міжнародны семінар па актуальных пытаннях прамянёвай дыягностыкі.

НА ЗДЫМКАХ: лабарант-рэнтгенолаг ЯМР-тамографа Любоў ГРАЧЫХІНА рыхтуе пацыента для абследавання; аператар Вольга КАБЯЛЬКОВА, лабарант Міхаіл ПЯТРОВІЧ і загадчык кабінета ЯМР-тамаграфіі Ігар БУЛАЕЎ апрацоўваюць даныя.

КАНФЕСІІ

## АМАЛЬ ПАЛОВА — ВЕРУЮЧЫЯ

Згодна з данымі сацыялагічных даследаванняў, 47 працэнтаў дарослага насельніцтва краіны лічаць сябе веруючымі. З іх 84 працэнты адносяцца да праваслаўнай, а 14 працэнтаў — да рымска-каталіцкай царквы. Астатнія 2 працэнты веруючых належаць да 24 рэлігійных канфесій, прычым колькасць прыхаджан у пратэстанцкіх абшчынах вылічваецца па актыўна веруючым, а не па традыцыйным прыналежнасці членаў данай сям'і да той ці іншай канфесіі.

На 1 студзеня 1998 года ў Беларусі налічвалася 2 256 рэлігійных абшчын, якія дзейнічаюць у рамках закона. Акрамя таго, у рэспубліцы зарэгістраваны рэлігійныя абшчыны старавабрадцаў, хрысціян поўнага Евангелля, савета цэркваў ЕХБ, мусульман, новаапостальскай царквы, грэка-каталіцкай царквы, іудзейскай рэлігіі і іншых веравызнанняў.

# ПРАЦА Ў ТРОХ НАПРАМКАХ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

нічнага сада з'яўляецца інтрадукцыя — адаптацыя для ўмоў Беларусі культурных відаў ці сартоў раслін з абласцей з іншымі кліматычнымі ўмовамі. Штогод тут атрымліваюць вялікую колькасць пасадачнага матэрыялу з 280 батанічных садоў зямнога шара. Пасля першапачатковай інтрадукцыі ў лабараторных умовах даецца ацэнка іх значнасці для сельскай гаспадаркі Беларусі, у выпадку станоўчага вырашэння работы працягваюцца.

За 65 гадоў існавання Цэнтральнага батанічнага сада Нацыянальнай акадэміі навук Рэспублікі Беларусь тут назапашаны генафонд, які налічвае больш за 10 тысяч назваў раслін. З іх 2 тысячы — трапічныя і субтрапічныя. На размешчанай пад шклом плошчы 3,5 тысячы квадратных метраў знаходзяцца расліны практычна ўсіх геаграфічных зон зямнога шара. Акрамя пазнавальнага значэння, гэтыя калекцыі ўяўляюць сур'ёзную цікавасць для сельскай гаспадаркі і медыцыны. Сёння тут маецца 250 назваў раслін, якія можна вельмі паспяхова выкарыстоўваць для вырабу тых ці іншых лякарстваў, якія цяпер набываюцца за валюту за мяжой. Аднак, па словах супрацоўнікаў Батанічнага сада, беларуская фармацэўтычная прамысловасць не гатова да таго, каб працаваць з расліннай сыравінай, і сёння вынік навуковых распрацовак не запатрабаваны ні Міністэрствам аховы здароўя, ні Галоўным аптэчным упраўленнем. Адна з распрацовак вучоных Батанічнага сада тычыцца славутага кораня жэньшэню. Тут распрацавана тэхналогія яго вырошчвання і даказана, што ва ўмовах Беларусі біялагічная прадукцыйнасць жэньшэню ў некалькі разоў вышэйшая, чым на Далёкім Усходзе. Ужо маюцца вырашчаныя ва ўмовах Беларусі шасцігадовыя карані вагой 480 грамаў. Сёння ў нас штогод нарыхтоўваецца каля 10 тон кораня жэньшэню. Аднак айчынныя перапрацоўчыя прадпрыемствы яго не прымаюць, пры гэтым за валюту набываюць нізкаякасныя кітайскія і карэйскія прэпараты кораня. У выніку беларускі жэньшэнь па нізкіх цэнах прадаецца перакупшчыкам, якія вывозяць яго з краіны.

Некаторыя навуковыя распрацоўкі, ажыццёўленыя ў Цэнтральным батанічным садзе, уяўляюць сур'ёзную цікавасць для сельскай гаспадаркі. Вучоныя, якія тут працуюць, неаднаразова прапаноўвалі ўкараніць у вытворчасць раслінныя кансерванты, якія забяспечваюць 98-працэнтную захаванасць сіласу да вясны. Нягледзячы на тое, што сёння для захавання сіласу выкарыстоўваюцца вельмі дарагія і небяспечныя для здароўя жывёлы хімічныя кансерванты, сельская гаспадарка цікавасці да распрацовак вучоных не праяўляе.

Над праблемай аховы навакольнага асяроддзя ў Батанічным садзе на працягу 15 гадоў працуе спецыяльная лабараторыя. Паколькі расліны з'яўляюцца вельмі дакладнымі натуральнымі індыкатарамі, біяіндыкацыя з'яўляецца найбольш танным спосабам кантролю за ўзроўнем забруджвання навакольнага асяроддзя. Тут праводзіцца даследаванні таго, як уплываюць на расліны і сельскагаспадарчыя культуры тыя ці іншыя выкіды, выпрацоўваюцца практычныя рэкамендацыі па аслабленні гэтага антрапагеннага прэса. У ходзе даследаванняў быў ажыццёўлены экалагічны маніторынг на ўсёй тэрыторыі рэспублікі, атрымана інфармацыя аб размеркаванні выкідаў цяжкіх металаў, злучэнняў азоту і серы на ўсёй тэрыторыі Беларусі. Адзначана, што, як правіла, яны канцэнтруюцца вакол буйных прамысловых прадпрыемстваў, маюцца і з'явы трансгранічнага пераносу. Аднак, зрабіўшы унікальную працу, супрацоўнікі Батанічнага сада сутыкнуліся з немагчымасцю апублікаваць атрыманыя даныя: на выданне атласа забруджвання тэрыторый рэспублік адзінаццацю найбольш агрэсіўнымі цяжкімі металамі, злучэннямі серы і азоту патрэбны сур'ёзныя сродкі.

Сёння ў калекцыях Батанічнага сада прадстаўлена звыш 10 000 назваў раслін. З іх 2 000 трапічных і субтрапічных могуць расці толькі пад шклом. Зімой, асабліва ў маразы, захоўваць калекцыі складана. Будынак, дзе знаходзяцца трапічныя і субтрапічныя расліны, быў узведзены ў 1959 годзе. Першы з таго часу рамонт пачаўся яшчэ ў канцы пазалетняга года і да гэтай пары не закончаны. У халады унікальную не толькі для Еўропы, але і ў сусветным маштабе калекцыю кактусаў абаграваюць пры дапамозе "буржуйкі". Сёння ў Батанічным садзе заработную плату на адну трэць супрацоўнікі зарабляюць самастойна за кошт уласнай гаспадарчай дзейнасці. Тут вядзецца рэалізацыя пасадачнага матэрыялу, заключаюцца гаспадарчыя дагаворы на азеляненне тэрыторый прамысловых прадпрыемстваў, навуковыя даследаванні аб выкарыстанні раслін у сельскай гаспадарцы і зялёным будаўніцтве. Аказваюцца паслугі па дызайну прыватным фірмам. Яшчэ адна крыніца даходу — распрацоўка зімніх садоў, адзін з іх зусім нядаўна быў створаны для новага дзіцячага анкалагічнага цэнтра ў Бараўлянах.

Вераніка ЧАРКАСАВА.

## ПАД ПАТРАНАЖАМ ПРЭЗІДЭНТА

Указам Прэзідэнта Беларусі зацверджана прэзідэнцкая праграма "Бытавая электроніка", якая ўключае ў сябе падпраграмы "Беларускі тэлевізар" і "Камп'ютэрызацыя насельніцтва".

Згодна з указам, дзяржаўным заказчыкам прэзідэнцкай праграмы выступае Міністэрства прамысловасці, а асноўнымі выканаўцамі падпраграм "Беларускі тэлевізар" і "Камп'ютэрызацыя насельніцтва" — адпаведна вытворчае аб'яднанне "Гарызонт" і Мінскае вытворчае аб'яднанне вылічальнай тэхнікі. Сума сродкаў, выдзяляемых з рэспубліканскага бюджэту на фінансаванне праграмы "Бытавая электроніка", не павінна перавышаць 50 працэнт-ў ад агульнага аб'ёму затрат на яе рэалізацыю. Аб'ёмы і крыніцы фінансавання павінна ўдакладніць экспертыза, арганізавана Фондам прэзідэнцкіх праграм.



# ГОРАД БАГАТАЙ ГІСТОРЫІ



(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

ны князямі Сапегамі ў палац. Князь М. Агінскі на яго месцы загадаў у 1768 годзе пабудаваць цэлы архітэктурны комплекс.

Бернардзінскі касцёл святой Тройцы ўзведзены ў першай палове XVI стагоддзя, а бернардзінскі касцёл Бязгрэшнага зачацця св. Марыі — у другой палове XVII стагоддзя. Абодва — у стылі барока.

У Слоніме нямала пабудоў пазнейшага часу, якія захаваліся, у тым ліку гандлёвыя рады, будынак музея, жылыя дамы. У пасляваенныя гады выраслі сучасныя мікраёны. Горад стаў трэцім па велічыні і развіццю прамысловасці ў Гродзенскай вобласці — пасля абласнога цэнтра і Ліды. Асноўныя галіны прамысловасці: лёгкая, харчовая, дрэваапрацоўчая, металаапрацоўчая. Найбольшыя прадпрыемствы: папяровакардонны камбінат, камвольна-прадзільная фабрыка, завод сухога абястлушчанага малака, мясакамбінат, мэблевая фабрыка і іншыя.

У Слоніме здаўна развівалася грамадска-палітычная думка, культура. У шэрагу пачыnанняў горад быў першым у Беларусі.

Капэла Агінскага існавала з 1765 да 1793 года. Ініцыятар яе стварэння — гетман Міхал Казімір Агінскі. У капэле налічвалася больш за пяцьдзесят інструменталістаў і вакалістаў — некалькі замежных, астатнія мясцовыя. Аркестр абслугоўваў патрэбы рэзідэнцыі князя, выступаў з канцэртамі ў беларускіх гарадах. Затым замежныя музыканты перайшлі ў Нясвіжскую капэлу. Слонімская занапала.

Прыкладна ў той жа час дзейнічаў Слонімскі прыдворны тэатр, створаны тым жа Агінскім. У яго складзе былі італьянскія і польскія спевакі, драматычныя акцёры, прыгонны хор і балет. Рэпертуар — балеты, оперы італьянскіх кампазітараў, оперы самога Агінскага, трагедыі Вальтэра. Працавалі два філіялы тэатра — у Седльцах каля Варшавы і ў Целяханах (цяпер Івацэвіцкі раён).

У Беларускай энцыклапедыі сказана: "Своеасаблівасцю архітэктуры вызначыўся будынак Слонімскага тэатра, які меў вялікую сцэну, прыстасаваную для выхаду вялікай колькасці людзей, для тэатралізаваных баталій коннікаў і водных феерый (частка сцэны затаплялася вадой з канала, і па ёй плавалі лодкі)".

Міхал Казімір Агінскі належаў да старадаўняга магнацкага роду. Яго прадстаўнікі ў XVII—XIX стагоддзях адыгралі вялікую ролю ў дзяржаўным, грамадскім, палітычным, культурным жыцці Беларусі, Літвы, Польшчы. М. К. Агінскі быў, мабыць, найбольш яркай фігурай. Ён адзін з кандыдатаў Кацярыны II у польскія каралі, ваявода віленскі, гетман вялікі літоўскі. Пасля эміграцыі пасяліўся ў Слоніме. Стварыў не толькі капэлу і тэатр, але і друкарню. Пабудаваў некалькі прадпрыемстваў. На яго сродкі пракладваўся Агінскі канал.

Адным з самых вядомых дзеячаў Вялікага Княства Літоўскага стаў Леў Сапега, які больш за трыццаць гадоў быў вялікім канцлерам — другой асобай пасля караля. Займаў ён і пасаду старосты Слоніма. Гэтаму чалавеку належыць шмат выдатных спраў. Але найважнейшая — стварэнне пад яго кіраўніцтвам Статута Вялікага Княства Літоўскага, прынятага ў 1588 годзе. У ім былі сабраны ўсе законы дзяржавы, па іх беларусы жылі некалькі стагоддзяў. Гэта быў лепшы ў Еўропе звод законаў для таго часу. На яго раўняліся, складваючы свае законы і канстытуцыі, у іншых краінах.

Пра гісторыю Слоніма, такую багатую, сабрана шмат матэрыялаў у краязнаўчым музеі. Заснаваны ён у 1929 годзе І. Стаброўскім, які ў аснову экспазіцыі паклаў свае археалагічныя і этнаграфічныя калекцыі. Сярод экспанатаў — прылады працы эпохі неаліту, матэрыялы археалагічных раскопак Слонімскага замчышча. Разнастайны аддзел прыроды.

Сёння жыхары горада працягваюць слаўныя традыцыі сваіх папярэднікаў. Хаця цяпер нялёгкі час для развіцця эканомікі і культуры, жыццё не спыняецца. Ствараюцца прыватныя прадпрыемствы, друкуюцца газета, кнігі, дзейнічаюць драматычны тэатр, шматлікія гурткі мастацкай самадзейнасці...

Мікалай ДЗЕЛЯНКОЎСКІ.

**НА ЗДЫМКАХ:** адна са старых вуліц Слоніма; Свята-Троіцкая царква, пабудова XVI стагоддзя; канал Агінскага.

Фота Віктара СТАВЕРА.



## НАМ ПІШУЦЬ

# ЗАПРАШАЕМ ДА СУПРАЦОЎНІЦТВА

**Я не ганю землі чужыя,**
**Хай іх сонца не абміне.**
**Толькі б дзе за морам ні жыў я,**
**Беларусь мая снілася мне.**

Напэўна, не толькі сны аб радзіме паклікалі беларусаў Нарвы аб'яднацца.

З сакавіка 1997 года. Аддзел мастацтва гарадской бібліятэкі. Тут упершыню сабраліся беларусы — людзі розных узростаў, поглядаў і інтарэсаў. Прыйшлі, каб пазнаёміцца, успомніць карані і вытокі свае, мілыя сэрцу родныя куты. І вось ужо ў пагранічным эстонскім горадзе, прыгожай і дзіўнай Нарве, гучыць беларуская мова, прысутныя разглядаюць выставу твораў Марыі Ларэкс (вышыўкі) і Ганны Салаўёвай (вязанне і ткацтва), гартаюць кнігі, чытаюць газеты на роднай мове. Аб сваім жыцці, родных мясцінах гучаць расповяды, якія выклікаюць то смех, то слёзы.

Ігнат Трусаў — паважаны ў горадзе чалавек, былы дырэктар школы, прыгадаў радкі з паэмы "Тарас на Парнасе", Сцяпан Дзмітрук выдатна чытаў вершы. Раптоўна загучала песня — адна, другая. "Пакуль гучыць беларуская песня — жыве беларускі народ!"

Душэўная атмасфера яднала суайчыннікаў. Разыходзіцца не хацелася. Усе выказалі адно меркаванне: "Даўно трэба было гуртавацца. Будзем жыць разам."

Так узнікла (12-е па ліку) у горадзе Нарве беларускае нацыянальнае культурнае аб'яднанне "Спадчына". 18 ліпеня яно ўжо было зарэгістравана.

За гэты час беларусы Нарвы пазнаёміліся з Уладзімірам Дзехцеруком на яго творчай сустрэчы, набылі кнігу вершаў "Сярод белых эстонскіх начэй", якая выйшла ў свет у 1996 годзе ў выдавецтве "Ээсці раамат".

З нагоды Велікоднага тыдня 3 траўня "Спадчына" ладзіла вечарыну, на якой гасцямі былі В. Раманоўскі — консул Рэспублікі Беларусь, прэзідэнт "Бацькаўшчыны" Ніна Савінава, творчая суполка БЭЗ на чале з Маргарытай Астравумавай, старшыня беларускага таварыства ў Таліне А. Лапышаў, старшыні нацыянальных згуртаванняў яўрэяў, палякаў, немцаў, шведаў з Нарвы.

Такім чынам, беларусы Нарвы пазнаёміліся са сваімі суайчыннікамі. Завязалася сяброўства. Сувязь і падтрымка паміж суполкамі дапамагаюць беларускай дыяспары ў Эстоніі заявіць аб сабе, захоўваць беларускасць.

У траўні месяцы жанчыны нашай "Спадчыны" згуртаваліся ў падрыхтоўцы да Дзён горада, што праходзілі 6, 7, 8 чэрвеня. Самаадданая майстрыха Вольга Дзёмка за 2 ночы пашыла спадніцы, а кожная з жанчын вышыла сабе кашулю. У падрыхтаваных сваімі рукамі народных строях выйшлі на творчую пляцоўку, упрыгожаную ручнікамі, абрусамі, іншымі цудоўнымі рэчамі беларускага побыту.

Гледачы прынялі ўдзел у беларускіх гульнях, арганізаваных Тамарай Абрамавай, Нінай і Мікалаем Аніскевічамі. А духмяны пах любімай стравы беларусаў, дранікаў, якія гатавала Тацляна Караткевіч разам са сваімі дачушкамі Светай, Любашай і сынам Сярожкам, прыцягнуў усіх да нашай творчай пляцоўкі. За вушы не адцягнуць было, пыталіся, як гатаваць такую смачную страву.

Даспадобы прыйшлося і выступленне, і частаванне беларусаў.

У верасні М. Астравумава арганізавала выставу творчага аб'яднання МЭЯ — мастакі з Гомеля прадставілі свае творы спачатку ў Йыхві, потым у Нарве. "Спадчына" дапамагла ладзіць прэзентацыю выставы.

11 кастрычніка адбылася значная падзея. Жыхары горада атрымалі падарунак — спатканне з "Сябрамі". Перад выступленнем "Сяброў" гучалі песні ў выкананні БЭЗу. На выставе жыхары і госці Нарвы пабачылі фотаздымкі аб жыцці нашай "Спадчыны", цікавыя гістарычныя матэрыялы, пазнаёміліся з мастацкімі творамі беларускіх дзяцей: керамікай Марыны Жураўлёвай, мастацкімі творамі Марыі Цыганок.

Ля стала з вырабамі майстра Аляксандра Грэся (члена Саюза мастакоў Рэспублікі Беларусь) мнагалюдны натоўп. Тут на вачах прысутных нараджаліся цудоўныя рэчы з саломкі, якія адразу можна было набыць. Зноў не абышлося без частавання стравамі беларускай кухні.

Свята ўдалося.

Вось далёка не поўны пералік тых спраў, што былі арганізаваны сіламі "Спадчыны" з дапамогай беларусаў Эстоніі і беларусаў з Айчыны.

Мы выказваем падзяку ўсім, хто быў разам з намі ў час станаўлення: І. Бондару і М. Раманоўскаму, Н. Савінавай і М. Астравумавай, А. Лапышаву і М. Дзехцеруку.

Мы выказваем падзяку Міністэрству адукацыі Рэспублікі Беларусь і асабіста Г. Пяцігору за дасланыя падручнікі і вучэбныя дапаможнікі, Камітэту па справах рэлігій і нацыянальнасцей, таварыству дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі, таварыству "Радзіма".

Асаблівыя словы ўдзячнасці за матэрыяльную падтрымку Прыбалтыйскай ГРЭС, аўтабазе, М. Бурдакову, Р. і У. Канстанцінавым, В. Жураўлёву, С. Хаміцкаму, дырэктару гарадскога музея Э. Эфяндзіеву, віцэ-мэру Г. Мальдон, старшыні гарадскога сабрання А. Палю.

Паўсядзённае жыццё працягваецца. "Спадчына" стала членам "круглага стала" нацыянальных меншасцяў Іда — Вірумаа, які зараз узначальвае М. Астравумава, старшыня БЭЗу. У Нарве створаны каардынацыйны савет нацыянальных меншасцяў, куды на сённяшні дзень уваходзіць 12 нацыянальных аб'яднанняў. Гэта цікавая з'ява: людзі розных нацыянальнасцяў, так званыя меншасці, на ўзроўні горада, рэгіёна вядуць полілог культур, знаходзяць кропкі дачынення, каб захаваць свае вытокі, спадчыну, сваю нацыянальную прысутнасць у Эстоніі.

Мы запрашаем да супрацоўніцтва, да сябе ў госці ў адзін з найпрыгажэйшых гарадоў Эстоніі — Нарву.

**Тацляна КАРАТКЕВІЧ-ЦЫГАНОК,**
**старшыня БЭКАЗ "Спадчына".**

Эстонія.

# КАЛЯДНЫЯ ПАДАРУНКІ З БЕЛАРУСІ

Супрацоўнік Дзяржкамітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь спадарыня Любоў Балаўнёва ў час праваслаўных Калядаў наведала Даўгаўпілс і прывезла тутэйшым беларусам, сябрам таварыства "Уздым", цудоўныя падарункі. Гэта тэлевізар "Арыён" з відэамагнітафонам і касетамі з запісамі народных свят, знакамітых мясцін Беларусі, а таксама 19 новенькіх нацыянальных касцюмаў для ансамбля "Купалінка" і дзіцячых нацыянальных касцюмаў для дзяцей беларускай нядзельнай школы. Прымаючы падарункі ў Генеральным консульстве Рэспублікі Беларусь у Даўгаўпілсе, кіраўнікі "Уздыму" выказалі словы ўдзячнасці за тое, што Беларусь памятае сваіх суайчыннікаў — беларусаў блізкага замежжа.

# ПРЫЁМ ПЕРАД АД'ЕЗДАМ

Генеральны консул Рэспублікі Беларусь у горадзе Даўгаўпілсе Анатоль Жалткоўскі даў прыём у сувязі з адбыццём на другое месца працы. На прыёме, які сам гаспадар назваў вечарам дружбы, былі прадстаўнікі палітычных і дзелавых колаў Даўгаўпілса, Краславы і Рыгі, МЗС Латвіі, пасольства Беларусі ў Латвіі, Дзяржкамітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь, консульстваў Даўгаўпілса і Віцебска, нацыянальных таварыстваў Даўгаўпілса і сродкаў масавай інфармацыі. Яны сказалі нямала добрых слоў у адрас спадара Жалткоўскага. Старшыня "Уздыму" таксама меў слова і выказаў падзяку спадару Жалткоўскаму за супрацоўніцтва, за падтрымку і дапамогу беларусам латгальскага краю, сябрам таварыства "Уздым" і пажадаў поспехаў на новым месцы працы, добрага здароўя і дабрабыту яму і яго блізкім.

**Станіслаў ВАЛОДЗЬКА.**

Латвія.

## З РОДУ КАНАРЖЭЎСКІХ

# БРАТЫ-АДМІРАЛЫ З ВЁСКІ АБОРАК

ЛЕТАСЬ я наведаў вёску Аборак, што на Маладзечаншчыне, і зазірнуў на мясцовыя могілкі. І раптам спыніўся перад высечаным з граніту помнікам, які сваім дыхтоўным выглядам вылучаўся сярод магільных крыжоў і прыцягваў да сябе ўвагу. Нахіліўся і ўбачыў на ім на польскай мове надпіс: "Контр-адмірал Ян Канаржэўскі, нарадзіўся ў 1830 г., 31 мая, памёр у 1887 г., 18 студзеня".

Побач з бацькавай магілай — магілы яго сыноў: марскіх афіцэраў, лейтэнантаў Івана і Аляксандра. Тут жа, побач, спачывае вечным сном і іх маці Багуміла Канаржэўская, якая надоўга перажыла і мужа, і сваіх сыноў (1840—1918).

Быў яшчэ адзін Канаржэўскі контр-адміралам: старэйшы на год за Яна, яго брат Станіслаў Адамавіч.

Чаму і па якой прычыне далёка ад марскога прастору знайшлі сабе апошняе прыстанішча на Маладзечанскай зямлі маракі? Бо тут была іх радзіма, тут нарадзіліся, адсюль пралёг іх шлях у марскія падарожжы, бітвы, у суровую марскую службу. Няйначай, яны марылі вярнуцца на родную зямлю. І назаўсёды ў ёй застацца. Гэта быў апошні прычал Канаржэўскіх.

Я паспрабаваў што-небудзь даведацца пра іх лёс у мясцовых жыхароў, але тыя самі нічога не ведалі пра славуты род Канаржэўскіх.

Дапамог выпадак. Сустрэў у Маладзечне вядомага краязнаўца В. Ляшковіча і пацікавіўся ў яго пра дынастыю маракоў, што пахаваны ў Абораку.

Ён мне і даў шырокія звесткі, узятыя з архіўных матэрыялаў і касцёльных запісаў, пра нашых землякоў, славутых Канаржэўскіх.

* * *

Адкуль і кім быў бацька Канаржэўскіх? Як яны трапілі на флот? Архіўныя і касцёльныя запісы пацвярджаюць: з парафіі аборкаўскага касцёла Вілейскага павета Віленскай губерні. Бацька адміралаў — дваранін Адам Міхайлавіч Канаржэўскі, калежскі рэгістратар, суддзя Віленскай акругі, які меў маёнтак у Аборку, у 1843 годзе звярнуўся з прашэннем залічыць яго сыноў, Івана і Станіслава, на вучобу ў Ваенна-марскі корпус у Пецярбургу. Іх прынялі.

Хлопчыкі вучыліся старанна, упарта спасцігалі нялёгкія марскія навукі і флоцкую службу.

Іван Канаржэўскі амаль усе 38 гадоў сваёй службы аддаў Балтыйскаму мору. У 1854—1855 гадах удзельнічаў у абароне Кранштата ад англа-французскай эскадры, вызначыўся ў баях і быў узнагароджаны медалём. У 1858—1862 гадах служыў на фрэгаце "Грамабой".

Станіслаў Канаржэўскі пасля таго, як быў 9 жніўня 1850 узведзены ў мічманы, трапіў у 29-ты флоцкі экіпаж Чарнаморскага флоту. Спярша служыў на фрэгаце "Крым". У 1853 годзе за храбрасць, праяўленую ў час Сінопскай бітвы, калі была ўшчэнт разбіта турэцкая эскадра Асман-пашы, мічман С. Канаржэўскі атрымаў званне лейтэнанта і быў узнагароджаны гадавым акладам. А эскадрай Чарнаморскага флоту, як вядома, камандаваў тады славуты контр-адмірал П. Нахімаў. Асаблівую мужнасць і ваеннае майстэрства Станіслаў Канаржэўскі праявіў у час абароны Севастопаля ў 1854—1855 гадах. На беразе, абараняючы чацвёрты бастыён і Язонскі рэдут, быў двойчы паранены і кантужаны. Пра гераізм нашага земляка сведчаць яго высокія баявыя ўзнагароды: ордэны Святой Ганны 3-й ступені, Святога Уладзіміра 4-й ступені, Святога Станіслава 2-й ступені з мячамі, Каўказскі Крыж (апошні — за ваенныя дзеянні на Каўказе), а таксама два сярэбраныя медалі — за абарону Севастопаля і ў памяць вайны 1853—1856 гадоў.

Калі Станіслаў вылечыўся, ён зноў вярнуўся на флот. Плаваў на розных баявых караблях, камандаваў карабельнымі падраздзяленнямі на Чорным і Балтыйскім морах, Ціхім акіяне. У 1864—1866 гадах прымаў удзел у кругасветным плаванні на карвеце "Грыдзень". Затым дзевяць гадоў камандаваў браняносным фрэгатам "Адмірал Спірыдаў" на Балтыцы, а ў 1883 годзе быў прызначаны камандзірам 4-га флоцкага экіпажа. У 1887 годзе ён быў узведзены ў контр-адміралы са звальненнем са службы з мундзірам і пенсіяй. У той год, дарэчы, памёр яго брат, контр-адмірал Іван Канаржэўскі, які да выхаду на пенсію ў 1881 годзе служыў на Балтыцы... Ён і пахаваны ў вёсцы Аборак. Спіць вечным сном у роднай зямлі разам з сынамі.

Як жа склаўся іх лёс? Абодва яны, Іван і Аляксандр, змалку пайшлі па бацькавай дарозе. Выхоўваліся ў Марскім кадэцкім корпусе.

Іван, які нарадзіўся 12 лістапада 1866 года, закончыў вучобу ў 1886-м, атрымаў званне мічмана і пачаў марскую службу. Праз два гады ён трапіў у Галоўнае геаграфічнае ўпраўленне, а потым — на фрэгат "Памяць Азова", пазней на карабель "Адзінарог". А неўзабаве атрымаў новае назначэнне — камандзірам 7-й роты на кліпер "Крэйсер".



Гэта было ў канцы XIX стагоддзя. У той час хутка распаўсюджваліся камуністычныя ідэі. Яны захапілі і маладога марскога афіцэра, які, відаць, карыстаўся павагай і аўтарытэтам сярод матросаў. За смелыя і адкрытыя выказванні сваіх поглядаў у маі 1892 года яго вызвалілі ад пасады камандзіра роты, а потым звольнілі са службы.

Але ён не пакінуў мора. Пераехаў у Адэсу і паступіў у Добраахвотны флот. У 1893-м стаў лейтэнантам. Архіўныя звесткі пра яго абрываюцца на 1894 годзе, калі ён яшчэ служыў на флоце.

І вось знойдзены запіс у кнізе рэгістрацыі грамадзянскіх актаў аборкаўскага касцёла. Там паведамляецца, што 22 студзеня 1901 года ў горадзе Адэсе памёр ад запалення лёгкіх лейтэнант, дваранін Аборкаўскай парафіі Іван Іванавіч Канаржэўскі. Цела яго 29 студзеня пахавана на аборкаўскіх могілках. Яму было тады толькі 35 гадоў.

Малодшы сын Аляксандр Іванавіч нарадзіўся 6 кастрычніка 1867 года. Пасля заканчэння Марскога корпуса ў 1886 годзе пачаў службу мічманам у флоцкім экіпажы. У 1890 годзе ўдзельнічаў у замежным плаванні на фрэгаце "Мінін". Потым вучыўся на курсах пры Марской вучэбнастралковай камандзе, а ў 1894 годзе ў званні лейтэнанта трапіў на браняносец "Гангут". У 1896—1897 гадах быў выкладчыкам і выхавацелем Марскога тэхнічнага вучылішча ў Кранштаце.

Пазней зноў быў у плаванні на браняносцы "Адмірал Ушакоў" і на крэйсеры "Герцаг Эдэнбургскі". У 1900 годзе Аляксандр Іванавіч захварэў і пасля цяжкай хваробы памёр.

І, як бацька і брат, пахаваны на аборкаўскіх могілках, куды ён быў прывезены з Кранштата.

Вось і ўсё, што мне ўдалося даведацца пра славутую і знакамітую дынастыю маракоў Канаржэўскіх, нашых землякоў з Маладзечаншчыны.

**Мікола КАПЫЛОВІЧ.**

**НА ЗДЫМКУ: фотакопія партрэта контр-адмірала Станіслава КАНАРЖЭЎСКАГА з альбома П. Роберга "Севастопальцы" — СПб, 1903, стар. 32.**

## НАТАТКІ КРАЯЗНАЎЦЫ

# ЗА ЦІТАЎКАЮ —СЛАБАДА

Сенакосы, лугі, частка з якіх ужо закінута, — Гачкі 1-я, Гачкі 2-я, Урэчча, Зарака (так, ніколі не казалі: паехалі за раку. Затое — касілі на Зарацы), Лучкі... Лясныя масівы — Бойня, Барчак 1-шы, Барчак 2-гі, Старынка, Блужчына. А яшчэ ж было мо з добры дзесятак масткоў, так называлі раскіданыя ў полі пералескі. Што яшчэ з мікратапонімаў помніцца, трымаецца ў памяці слабадчан?.. Мо з часам адказ на гэтае пытанне будзе шмат паўнейшым. Пакуль жа — маўчанне памяці.

Пра людзей... І вось толькі некаторыя прозвішчы, што здаўна бытуюць у слабадской прасторы, — Ількевічы, Максімовічы, Свірыдавы, Карлюкевічы, Сугакі, Паскробкі, Манюкі, Корані, Маzанікі, Шынкарыкі, Дубовікі... І таксама за кожным — тайна, гісторыя паходжання. Як, прыкладам, Бірукоў. Ад слова бірук, якое ў цюркскай мове азначае адзінокі воўк ці шапка з ваўчынага футра, па-руску — звер, проста воўк, па-беларуску яшчэ і чалавек, якога падазраюць у крадзяжы. Такое тлумачэнне да прозвішча, якое і слабадскім лічыцца, дае вядомы літаратуразнаўца, пісьменнік Уладзімір Юрэвіч, які і да мовы чуйны і ўважлівы. Гулякевіч... ад слова гуляць. Блізкія прозвішчы — Гуль, Гулько, Гуліч, Гулевіч...

Дробаў — ад драбочка, ад слова, якое азначае маленькую часцінку, крупіначку чаго-небудзь. У падобных прозвішчах ці не самае дакладнае выяўленне характэрнай рысы беларуса — быць беражлівым, ашчадным да ўсяго, што здабыта сваімі рукамі. Дубовік — многія звязваюць гэтае прозвішча з тымі, што ўтвораны ад назвы дрэва дуб. Але ў гэтым разе трэба лічыць за аснову іншае, украінскае і рускае значэнне слова дуб і дубовік. Плытагоны сваю лодку, якая суправаджае рух плытоў, называюць дуб, дубоўка, адсюль і дубовік, як гаспадар гэтай пасудзіны, або стырнавы, гаспадар лодкі. Сугака... У старыя часы вясковыя людзі хадзілі ў лапцях, а значыць, былі вымушаны іх плесці, а потым, калі падносяцца, падплятаць, рамантаваць. Для гэтага існавала спецыяльная прылада — касцяное ці драўлянае, а пазней і металічнае крывое шыла, якое называлася сугакам. Чалавека, які ўмеў увішна падплятаць лапці, так і назвалі — Сугака.

...Шчэрба. Па паходжанню нямецкае, бо ўтворана ад нямецкага слова шэрбе, што значыць драпінка, шчарбіна, трэшчына, расколіна, зазубіна. Толькі па-руску яно вымаўляецца щерба, щербина, а па-беларуску шчэрба, шчарбіна. Шчарбатым называюць чалавека, у якога няма аднаго ці некалькіх зубоў спераду. Адсюль і мянушкі Шчэрба, Шчарбаты, якія сталі прозвішчамі.

Збіраючы ў Заціtавай Слабадзе ўсемагчымыя анамастычныя адмеціны, не магу не перадаць хаця б некаторыя мянушкі — дзядзька Вура, Бажочак, Багіня, Бажаняты, Царыца, Гершун,.. ёсць сярод мянушак часам і крыўдныя. Але ж прырода іх такая ўстойлівая, што мянушкі перадаюцца з аднаго пакалення ў другое.

Асаблівая старонка — гісторыя Заціtавай Слабады ў Вялікую Айчынную. У асноўным у ваколіцах вёскі дзейнічалі партызаны брыгады "Полымя", камандзіру якой Я. Філіпскіх было напрыканцы вайны прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. Адзін час у пачатковай школе ў вайну размяшчалася падраздзяленне паліцаяў. Партызаны правялі аперацыю і спалілі школу разам з паліцаямі. Хто з слабадчукоў праявіў сябе ў вайну? Інвалідам, але з двума ордэнамі Чырвонай Зоркі вярнуўся з фронту Міхаіл Ількевіч. Два ордэны Славы заслужыў Пятро Штыцька. Два ордэны Чырвонай Зоркі атрымаў на фронце Фёдар Трус. Па-геройску загінуў, падарваўшы сябе гранатай, партызан Іван Трус. Доўгі час піянерская дружына Пухавіцкай сярэдняй школы (што ў суседнім мястэчку Пухавічы), пакуль яны, піянерскія, дружыны былі, насіла, між іншым, імя героя-партызана. А многія вяскоўцы, нацярпеўшыся ў акупацыі, зброю ў рукі ўсё ж узялі толькі пасля вызвалення Беларусі, улетку 1944 года. І паклалі свае галовы ў асноўным ва Усходняй Прусіі. Ненавучаныя, неабстрэленыя, яны ўсё ж пайшлі першым эшалонам. І там засталіся. Многія прынамсі засталіся.

Пасля вайны ў Заціtавай Слабады такі ж лёс, як ва ўсяе Беларусі астатняй. Такі ж цяжкі... Усяго паспыталі жыхары Слабады за Цітаўкай. Частая змена калгасных старшынь. Коксагызаўская эпапея. Смерць Сталіна. З тае, пасляваеннай, пары і такі вось фальклор: "Як прыйшоў Малянкоў, дык наеліся блінкоў". Пачуў гэта ад бабулі сваёй — Таццяны Сямёнаўны Карлюкевіч, гады жыцця — 1909—1995. Доўгі час старшынёй калгаса імя Чапаева працаваў Апанас Лопан, франтавік-ардэнаносец. І за мірную працу атрымаў высокія савецкія ўзнагароды — ордэны Кастрычніцкай рэвалюцыі, Працоўнага Чырвонага Сцяга. Дарэчы, пра ўзнагароды я згадваю наўмысна. Усё ж ордэны і медалі — адзнака людской працы, выключнасці, руплівасці чалавечай у полі, на лузе, на ферме. Таму проста нельга, лічу, хаця б не згадаць імёны ардэнаносцаў. Ордэн Леніна атрымаў трактарыст Валянцін Гулякевіч. Ордэн "Знак Пашаны" — трактарыст Яўген Мазанік. Ордэн Працоўнай Славы III ступені — свінарка Зінаіда Крывашэева. Такія вось людзі ў невялікай Заціtавай Слабадзе.

Тое, што Слабада за Цітаўкаю — справа вядомая і зразумелая. Але ж фактычна амаль уся вёска шнурочкам уецца паўз правы бераг Свіслачы. Таму хоць колькі слоў — пра Свіслач. Пра тую Свіслач, што гэтак падрабязна выпісана ў аповесці Кастуся Кірэенкі "Вандроўнае шчасце" (жанр пісьменнік удакладніў — рыбацкая паэма). Пра Свіслач у межах Заціtавай Слабады чытаем у Кастуся Кірэенкі: "Паміж Балачанкай і Пухавічамі характар Свіслачы зусім не мяняецца — усюды сустракаюцца мясціны, дзе можна палавіць плотку, прынадзіць галаўня або язя, паспрабаваць вытрымку на ляшча, пасцёбаць блешняй. Мне ўдавалася часам злавіць некалькі шчупакоў насупраць вёскі Слабада, што стаіць зусім побач з Пухавічамі, паддурыць добрых акунёў у вусці ракі Цітаўка (упадае ў Свіслач на самай ускраіне мястэчка), добра паваяваць з плоткаю ніжэй і вышэй пухавіцкага моста.

Праўда, варта адзначыць, што рака Свіслач наколькі багатая рыбаю ў гэтых мясцінах, настолькі і капрызная ў сваіх паводзінах. Рэдка тут які-небудзь тыдзень вада стаіць у адным узроўні. Сёння закідваеш вуды ў затоцы, дзе аж па самыя макаўкі затоплена куга, а назаўтра прыходзіш — і бачыш тут пясчана-заіленую мелізну, вада рэзка спала. Або — наадварот — вады нечакана і адразу прыбудзе столькі, што і прыбярэжны альшэўнік стаіць у ёй па калені... Не падступіцца да жаданых мясцін..."

Быў час, калі рэдка на чыім падворку меўся калодзеж. Ваду цягалі на каромыслах з ракі. Нават чай гатавалі з свіслацкай вады, што ўжо казаць пра мыццё бялізны ды ваду для лазні. Зараз — іншая справа... І купацца боязна, і ад рыбы, здаецца, нечым непрыемным патыхае. Хаця ловяць па-ранейшаму актыўна. І "тэлевізарамі", і "павукамі", і вудамі. Ловяць і сеткамі — брэднямі, крыгамі, таптухамі. Свіслач усё ж застаецца Свіслаччу.

Знаходзячыся ў выгадным па сваёй інфраструктуры становішчы, Заціtава Слабада двойчы прывабіла ў свой час кіношнікаў. Масквічы здымалі ў вёсцы мастацкі фільм "Строгая жанчына". У Слабадзе і зараз памятаюць вядомага кінаакцёра Аляксандра Бялова. Спецыяльна для здымак кіно склалі навюткі зруб. Праўда, дарагая слабадчанам кінастужка нядоўга вандравала па кінаэкранах Саюза: нечым не даспадобы прыйшлася "Строгая жанчына" тагачасным ідэолагам ад кінамастацтва. Асобныя эпізоды "Гандляркі і паэта" (экранізацыя "Беларусьфільмам" аднайменнай аповесці Івана Шамякіна) — таксама з слабадской рэчаіснасці.

Так атрымалася, што Заціtава Слабада, будучы вёскай сядзібнай у мясцовым калгасе, абкружана не меней сядзібнымі вёскамі і вёсачкамі ў сэнсе гістарычнасці, эпіцэнтрычнасці. Толькі некаторыя з гэтых вёсак — Падбярэжжа, Балачанка, Маркаўшчызна, Грабаўё, Беразянка. Усе — з слабодскага калгаса імя Чапаева.

Балачанка... Пухавіцкая Балачанка. Пухавіцкага сельсавета Балачанка. Чаму ўдакладненне — маўляў, пухавіцкая? Бо ёсць жа яшчэ на Пухаўшчыне і ў Чырвонакастрычніцкім сельсавеце Балачанка. На той самай рацэ Балачанка. Праўда, была. Спалілі фашысты ў Вялікую Айчынную. Вёска не адноўлена. А пухавіцкая Балачанка, суседзіца Заціtавай Слабады, на доўгі час, на доўгія гады была блізкай і роднай Якубу Коласу. Тут, у Балачанцы, вялікі паэт летаваў, пра вёску — у вершы "Вусянцкі грудок". Вядомы коласазнаўца Мікола Жыгоцкі ў кнізе "Побач з Коласам" сведчыць наступнае пра Балачанку ў дачыненні да Коласа: "Пасля вайны Якуб Колас спыняўся на лета ў вёсцы Балачанцы, што знаходзіцца на беразе рэчкі Балачанкі за 4 км ад Пухавічаў, у Канстанціна Сцяпанавіча Дзяткі, старшыні мясцовага калгаса. Звыш дзесяці гадоў звязвала іх моцная дружба. Яны клапаціліся пра аднаўленне разбуранай гаспадаркі. Іншы раз народны паэт прыязджаў сюды з Петрусём Броўкам і Міхасём Лыньковым. Міхась Ціханавіч зрабіў тады шмат фотаздымкаў гэтых мясцін. Іх ён пры жыцці перадаў у музей паэта, дзе яны і захоўваюцца ў фондах".

У Балачанцы, у хаце Канстанціна Дзяткі, Колас пісаў 3-ю кнігу трылогіі "На ростанях". Пра суседнюю да Заціtавай Слабады вёсачку вось што пісаў Колас у лісце да Міхася Лынькова: "Эх, Балачанка! Вось дзе курорт і адпачынак, няхай будзе благаслаўлёна вусцянка — Балачанская зямля і хвайнякі!" А ў "Кнізе Ташкенцкага быція" (коласаўскі дзённік часоў вайны) паэт шчымліва задумаўся: "Ці ступлю на тую дарогу, што прывядзе да родных куточкаў, на Свіслач, у Вусце, Беразянку і Балачанку?" А назва, якая простая і якая агульнабеларуская, красамоўная назва. Балачанка — сяброўка-паплечніца Белага Балота і Вялікага Балота, Сасновага Балота і Цёмнага Балота, Белых Балот і Балотнікаў, Балотні і Балатоўкі, Балотчыц і Балотаў, Балочы... Вядома ж, усё з-за балот, з-за іх неабсяжнай, на ўсю Беларусь, прасторы.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

**Працяг.**
**Пачатак у № 4.**



**Цэнтр рэабілітацыі анкалагічных хворых дзяцей адкрыўся пры рэспубліканскім дзіцячым санаторыі ў Астрашыцкім Гарадку. Тут створаны ўсе ўмовы для аздараўлення дзяцей. Разам з імі будуць пражываць у час лячэння іх бацькі.**

**У стварэнні цэнтра ўдзел прымалі дабрачынныя арганізацыі Германіі, якія сабралі на будаўніцтва больш за дзвесце тысяч марак. На адкрыцці яго прысутнічалі прадстаўнікі Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь і госці з Германіі.**

**НА ЗДЫМКАХ: выступае старшыня германскага дабрачыннага таварыства "Сонца — дзецям Чарнобыля" Карла АЎРЫХ; прыехалі першыя пацыенты; новы рэабілітацыйны цэнтр у Астрашыцкім Гарадку.**

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ.**





# ЖЫЦЦЁ І МУЗЫКА

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

трапяткое ўзвышанае стаўленне да той зямлі, дзе ён нарадзіўся, да ўсяго, што яму дарагое і блізкае. А калі Бог даў табе талент, то свае пачуцці трэба выказаць з высокім прафесіяналізмам і годнасцю.

***— На тэксты якіх паэтаў напісаны вашы песні?***

— Мае аўтары Уладзімір Карызна, Уладзімір Някляеў, Леанід Пранчак, Міхаіл Ясень, з маладзейшых — Леанід Дранько-Майсюк, Алесь Бадак.

***— Давайце зноў вернемся да работы з'езда. Мне прыемна было пачуць, што ў вас ад гэтай падзеі засталося святочнае ўражанне. І ўсё ж, думаю, без праблем таксама не абышлося.***

— Праблем усюды хапае. І ў Саюзе кампазітараў таксама. Асноўныя праблемы — матэрыяльны бок нашага жыцця. Думаю, такія праблемы мае сёння кожны творчы саюз. Спадзяемся, яны часовыя, і мы гатовы ўсё перанесці дзеля таго, каб дачакацца часоў, калі стане лягчэй. Бадай, самая балючая праблема, дзе выдаць творы. Раней буйныя творы выдаваліся ў Маскве і Ленінградзе, пасля распаду СССР заказы нашы больш не выконваюцца. У Беларусі базы для выдання музычных твораў практычна няма: невялікая рэдакцыя, дзе два-тры чалавекі ўручную друкуюць ноткі.

Другая сур'ёзная праблема — адток выканаўцаў. Спевакі і музыканты едуць за мяжу, едуць часова па кантрактах ці ад'язджаюць на пастаяннае жыхарства. Гэта зноў жа звязана з матэрыяльным становішчам, таму што ў нас сёння першыя канцэртмайстры атрымліваюць такую мізэрную зарплату, што яе ледзь хапае на існаванне, таму аркестры не ўкамплектаваны амаль на 30 працэнтаў.

У Беларусі застаюцца музыканты, якія не ўяўляюць сябе ў іншай прафесіі. Мой лёс таксама непадзельны з музыкай. Як бы добра дзе ў іншым краі ні было, Беларусь пакінуць я не змагу.

***— А пра тых васьмярых кампазітараў, якія паехалі за мяжу, вы штонебудзь ведаеце? Як склаўся іх лёс?***

— Практычна, амаль ва ўсіх работа з музыкай не звязана. Адзін, займаецца бізнесам. Дзмітрый Еўтуховіч, вельмі таленавіты хлопец, у нас добра пачынаў сваю дзейнасць, цяпер музыкай не займаецца. І іншыя таксама. Асуджаць іх быццам бы і няёмка, але я лічу, што такія людзі не да канца былі адданыя сваёй справе.

***— Вось і Валя Пархоменка жыве дзесьці ў Злучаных Штатах.***

— З Валянцінай Пархоменка мы пачыналі працаваць і адчулі адзін аднаго ў творчай садружнасці. Яна выканала многа маіх песень. Голас у яе — пакуль што такі другі ў нас не нарадзіўся.

***— Там жа яе голас не запатрабаваны?***

— Так. І, думаю, душа яе баліць ад таго, што яна не можа выказацца, а голас не можа вырвацца з палону, абмежаваны дробнымі, у параўнанні з мастацтвам, запатрабаваннямі. Яна зрабіла недаравальную памылку, пакінуўшы Беларусь. Можа, яшчэ вернецца.

Разам з ёю і я ў многім страціў магчымасць раскрыць сваю творчасць. Многае было напісана для яе голасу, з разлікам на яе, на тое, што ёсць у нас такая выканаўца. Кожны кампазітар павінен меці артыста, здольнага данесці яго творы да слухача. Так было і з Ярославам Еўдакімавым, які паехаў у Расію, і яго там ужо даўно не чуваць. У свой час у яго выкананні шырока прагучалі мае песні "Памяць", "Перамога".

***— А што вы можаце расказаць пра фальклорны калектыў, якім сёння кіруеце?***

— Гэта ансамбль "Бяседа". Калі Валянціна Пархоменка паехала, распаўся ансамбль "Жывіца", якім яна кіравала на радыё і тэлебачанні. Я ў той час працаваў таксама на тэлебачанні, палічыў, што знікненне такога выдатнага фальклорнага калектыву — трагедыя. У Беларусі фальклор тое, што варта найбольшай увагі, бо гэта сапраўднае мастацтва. Спачатку я займаўся з "Жывіцай", чакаючы, што Валянціна вернецца. Калі стала вядома, што яна засталася ў ЗША, у ансамблі было ўжо многа новых выканаўцаў. У калектыў прыйшлі Якаў Навуменка і Святлана Суседчык. З імі мы і стварылі на базе "Жывіцы" новы ансамбль — "Бяседу", якім я кірую. Для мяне гэта як другая прафесія, і я ўжо не аддзяляю сваёй індывідуальнай творчасці ад "Бяседы". Як кампазітару работа з ансамблем дае мне магчымасць пастаянна слухаць беларускую народную музыку, спасцігаць тонкасці фальклору, яго сапраўдную каштоўнасць. Для кампазітара-песенніка гэта надзвычай важна. Я быццам сілкуюся фальклорам, каб потым яго багацце выкарыстаць у сваіх песнях.

***— А адкуль бяруцца ў ансамблі новыя фальклорныя песні?***

— Многа новых песень прынёс Якаў Навуменка. У яго вялікі песенны багаж, ён іх любіць, запісваў і запісвае ад вясковых жанчын. Святлана Суседчык прынесла шмат песень, запісаных ад сваёй маці. Усе гэтыя песні ні разу нідзе не гучалі. Мы і далей будзем шукаць новыя песні, браць іх у народа і вяртаць іх народу, толькі ўжо у сваёй інтэрпрэтацыі, даючы ім новае жыццё.

***— А дзе выступае "Бяседа"?***

— Нас запрашаюць на прадпрыемствы, у вёскі, мы выступаем на вялікіх пляцоўках, у вялікіх канцэртах. Выязджалі на фальклорныя фестывалі ў Швецыю, Германію, Карэю, Аўстрыю. Самае галоўнае, я лічу, што ў "Бяседу" прыйшлі людзі, якія любяць фальклор і шчыра адданыя справе, якую робяць.

***— Поспехаў "Бяседзе"! І на заканчэнне яшчэ пытанне, што тычыцца з'езда. Старшынёй Саюза кампазітараў зноў абраны Ігар Лучанок?***

— Так. Ён ужо абраны на трэці тэрмін, хаця па нашаму статуту адзін чалавек можа быць абраны толькі на два тэрміны. Гэтым разам палічылі магчымым унесці папраўку ў статут — не абмяжоўваць тэрмін, на які выбіраецца старшыня, а выбіраць яго на альтэрнатыўнай аснове. Члены Саюза кампазітараў вырашылі выбраць Ігара Лучанка. Ён многа робіць для саюза, у яго аўтарытэт у грамадстве. Ён усіх задавальняе.

***— На фоне нашага даволі бязрадаснага жыцця, незадаволенасці прыемна было пачуць ваша аптымістычнае ўражанне аб рабоце з'езда.***

— Упэўнены, што я не адзінокі ў такой ацэнцы. Так думаюць многія мае калегі. Было б значна горш, каб усе мы пачалі скардзіцца, а ў выніку з'явіліся б такія ж песімістычныя творы.

Гутарыла
**Дзіяна ЧАРКАСАВА.**

## ПАХОДЗІЎ З БЕЛАРУСІ

Беларусам па паходжанні быў вядомы рускі паэт Яраслаў Смеляков. 8 студзеня Яраславу Васільевічу споўнілася б 85 гадоў (памёр 27 лістапада 1972 года). Я. Смелякоў — аўтар шматлікіх кніг. У асобных яго творах ("Белая вежа", "Беларусам", "Ода маладшаму лейтэнанту" і іншых) гучыць і беларуская тэма. Напісаў таксама шэраг артыкулаў, прысвечаных нашай зямлі. У публіцыстычных творах распавядаў пра зямлю, якую лічыў роднай і на якой неаднойчы бываў, у літаратурна-крытычных артыкулах пісаў пра творы асобных пісьменнікаў, пра іх кнігі. Пераклаў на рускую мову некаторыя творы А. Куляшова. Творы ж Я. Смелякова па-беларуску ўзнаўлялі М. Танк, Е. Лось, М. Калачынскі, Я. Семяжон, М. Аўрамчык... У 1974 годзе на беларускай мове ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" выйшла кніга Я. Смелякова "Выбранае".

## ЛІСТЫ МАКСІМА ТАНКА ДА МІХАСЯ ЗАБЭЙДЫ-СУМІЦКАГА

# «НІЗКІ ПАКЛОН ТВАІМ ПЕСНЯМ...»

Дарагі Міхале!

Зараз не з такім спазненнем адказваю на лісты сяброў, бо пішу з бальніцы. Зноў падвяло сэрца. Думаў, што дацягну да восені, калі не так сумна будзе праз бальнічнае вакно глядзець на дрэвы, на галубоў, якія буркуюць за шыбамі, на пагожае неба, на сонца, але прыйшлося раней перабрацца ў цытадэль эскулапаў, адкуль не знаю, калі змагу вырвацца.

Шчыра дзякую Табе за пісьмо, якое прынесла хоць і скупыя звесткі ад Цябе аб Тваім стане здароўя, аб Тваім жыцці-быцці. Уяўляю, як Ты там сам гаспадарыш, ходзіш у сваю сталоўку, сустракаешся са сваімі вучнямі, рыхтуешся да выступленняў. Шкада, што мы ў такім аддаленні адзін ад другога. Марцінчык слушна зрабіў: ён прыслаў назвы замежных лекаў, якія вядомы і ў вас. Некаторыя з іх я ўжо маю (какарбаксілаза, місклерон, інтэксаін і іншыя) і пастараюся іх Табе пераслаць. Трэба будзе толькі даведацца, можа, хто з нашых знаёмых збіраецца ехаць у Прагу, папрасіць, каб перадаў іх Табе і наведаў Цябе самога.

Добра, што хоць на нейкі час зможаш выехаць, каб адпачыць у Лугавіцах, падыхаць чыстым паветрам, а не гарадскім перагарам і чадам, ад якога мы ўсе задыхаемся.

Што да беларускай літаратуры, дык, сапраўды, ёсць у ёй шмат радасных з'яў. Усё больш і больш яна папаўняецца здольнымі маладымі сіламі, усё больш і больш з'яўляецца перакладаў нашых твораў на іншыя мовы. З'ява гэта — і цікавая, і радасная. Толькі што выйшла ў нас дакументальная аповесць ці хроніка "Мы з вогненнай вёскі" А. Адамовіча, Я. Брыля, У. Калесніка. Я пастараюся Табе яе прыслаць. Цяжка чытаць гэту кнігу, але кожны мусіць яе прачытаць. Цяжка такую кнігу было і напісаць. Больш трох год хлопцы ездзілі і збіралі матэрыял, запісвалі на магнітафонную стужку расказы тых, каму цудам удалося ўратавацца. Відаць, праўду гаворыць югаслаўская пагаворка, што самая цяжкая прафесія на свеце — прафесія людзей сумленных і тых, хто піша кнігі.

А ў Прагу не знаю, калі ўдасца завітаць. Хоць вельмі хацелася б пабачыцца з Табой, разам паблукаць па яе цудоўных завулках і скверах, але, відаць, прыдзецца скарачаць маршруты сваіх вандровак. Моцна Цябе, дружа, абдымаю. Жадаю Табе хутчэй папраўіцца, а Тваім песням — як і раней — лунаць над нашай зямлёй.

**Максім ТАНК.**

Мінск, 24/V.1975 г.

Дарагі Міхале! Шчыра Табе дзякую за пісьмо, якое хоць крыху разагнала трывожныя звесткі аб Тваім жыцці-быцці. Тры тыдні таму ў Несвіжы (ляжыцца там у санаторыі, які размясціўся ў былым Радзівілаўскім палацы) прысніўся мне нейкі несамавіты сон: бачу Цябе за шыбамі вакна, на якія сплываюць буйныя слёзы дажджа; Ты мне нешта гаворыш, і я Табе нешта крычу, але мы адзін аднаго не чуем. Прачнуўся. Ішоў дождж, і маланкі перамігваліся над старым паркам. Так нам і ў сне не ўдалося пагаварыць. З Несвіжа, дзе наведаў мастака Сеўрука (калісьці рабіў вокладку да майго першага зборніка, які быў канфіскаваны цэнзурай), вярнуўся ў Мінск і адразу — на юбілей Петруся Броўкі, а праз пару дзён — 70-годдзе Глебкі, а там — Масква, сесія Вярхоўнага Савета. Усё было б добра, каб не ціск і не праклятая арытмія, з якой і дактары не могуць справіцца. Зараз уцёк на некалькі дзён на Нарач, дзе сабраўся ўвесь мой калгас з дзецьмі і ўнукамі. Надвор'е пагожае, хоць год гэты клапатлівы для сельскай гаспадаркі.

Але Ты, Міхале, сапраўдны Герой. Не зважаючы на сваё дрэннае здароўе, змог даць такі багаты канцэрт і так узрушыць сваёй песняй слухачоў! Гэта — сапраўдны подзвіг мастака. Прымі нашы, хоць запозненыя, віншаванні з 75-годдзем. Шкадую, што я, сусветны Бадзіня, не змог трапіць на Твой канцэрт і моцна Цябе абняць і падзякаваць за Твой светлы талент, якім так шчодра Ты дзелішся з усімі. І гэта, бадай, найвялікшае шчасце, бо:

**І радасць — ніякая радасць,**
**а горыч,**
**І песня — ніякая песня, а скарга,**
**І страва — ніякая страва, а камень,**
**І брага — ніякая брага, а слёзы,**
**І сонца — ніякае сонца, а крыга, —**
**Калі ты на свеце ўсім гэтым**
**Не маеш з кім падзяліцца.**

Моцна Цябе абдымаю. Тысячы прывітанняў і найлепшых пажаданняў Табе ад усёй маёй сям'і і ад усіх Тваіх мінскіх сяброў.

Абдымаю, цалую.

**Максім ТАНК.**

Нарач. 14/VII.75.

Мінск. 7/IX.75

Цэлымі днямі дома — шум, гармідар такі, што і працаваць няма як. Сёння — выхадны. Унукі пайшлі гуляць. Пакуль прыйдуць, можа, паспею Табе напісаць. Дарагі Міхале! Атрымаў Тваё апошняе пісьмо, якое крыху супакоіла, але і здзівіла. Відаць, Ты зусім не лічышся са сваім здароўем, што так часта выступаеш на канцэртах, ды яшчэ з такой багатай і разнастайнай праграмай, якая патрабуе каласальных душэўных і фізічных сіл, працы і натхнення. Няма там каля Цябе чалавека, які сачыў бы за Тваім здароўем і крыху абмяжоўваў бы агрэсію Тваіх прыхільнікаў, якія часта ў адносінах да мастака бываюць бязлітаснымі. Добра, што хоць на пару дзён зможаш выехаць з Прагі да сваіх сяброў. Сёлета ў нас надзвычай сухое і гарачае лета. Уяўляю, як душна ў Празе. Першага верасня я з усім калгасам вярнуўся з Нарачы, куды быў уцёк ад дактароў, якія хацелі мяне на ўсё лета запаланіць у Маскоўскай бальніцы. Не знаю, можа, і легкадумна паступіў, але не хацелася са сваіх гадоў выкрэсліваць такое сонечнае лета. Вельмі цяжка захварэў Міхаць Ціханавіч Лынькоў. І ў дактароў малая надзея, што ім удасца паставіць яго на ногі. Падтрымліваюць яго ўколамі, рознымі ўліваннямі, капельнымі працэдурамі. Бачыш, дружа, якімі сумнымі звесткамі дзялюся з Табой, быццам у Цябе сваіх мала.

Прызнацца, перачытваю праграму Твайго канцэрта і зайздрошчу тым, хто на ім прысутнічаў, мог чуць у Тваім выкананні ўсё гэта багацце сусветнай класікі.

Ці атрымліваш Ты "Полымя"? У № 8 я даў падборку новых сваіх вершаў, якія ўвойдуць у мой новы зборнік "Дарога, закалыханая жытам". Праўда, над зборнікам яшчэ шмат прыйдзецца папрацаваць, а часу — няма. Зараз пойдзе паласа розных пленумаў, нарад. Кастрычнік увесь прыйдзецца правесці ў Маскве, а там — камандзіроўкі і камандзіроўкі. Канчаю, бо чуваць вяртаюцца з прагулкі мае ўнукі.

Моцна Цябе, дружа, абдымаю, жадаю Табе шмат шчасця, а галоўнае — здароўя. Сардэчныя Табе прывітанні ад усяго майго калгаса, ад шматлікіх Тваіх сяброў.

Твой

**Максім ТАНК.**

**Заканчэнне. Пачатак у № 52 за 1997 год, №№1—4 за 1998 год.**

***Публікацыя Міколы МІКУЛІЧА.***

Сяргей ПАНІЗЬНІК

## ВЫЯВЫ ЯНА ГУШЧЫ

**Мой суайчыннік, у пальшчызне знаны,**
**з душой быў збеларушчанай да дна:**
**струменіла там Dzisna і Дзісна,**
**шугала Ludź узнёсла-апантана.**
**Гранёны келіх церпкага віна**
**зрасходаваны — кроплямі — на раны.**
**Складае крылы Век Перапалоху.**
**Выгнанцы, паязджане, вам — куцця!**
**Успомніце з гасціннага жыцця**
**і тое Загасцінне на разлогу,**
**дзе на гарышчы чулае дзіця**
**Мацеем Бурачком здалося Богу.**
**У чорных рамках — вобразы-выявы.**
**У светлых рамках Яна — каляда,**
**Дзвіны непераводная вада**
**і краявіды: згусны і бялявы,**
**дзе шлях з гасціны — збочыста-**
**кулявы,**
**шлях да айчыны — годная хада!**

Споўнілася 80 гадоў з дня нараджэння Яна Гушчы, польскага пісьменніка, перакладчыка, выдаўца і прапагандыста беларускай літаратуры. У фондах Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы захоўваецца перапіска, фотаматэрыялы, перададзеныя Ядвізе Раманоўскай нашым земляком. Як Гушча нарадзіўся ў Загасцінні на Дзісеншчыне (сучасны Мёрскі раён Віцебскай вобласці).

Пры жыцці (памёр у 1986 годзе ў Лодзі) часта наведваў Бацькаўшчыну, быў на мерапрыемствах па ўшанаванні памяці Янкі Купалы. Свае ўражанні выкладаў у эсэ і вершах.

Высока ціаніў Яна Гушчу, “выдатнага перакладчыка і друга нашай беларускай літаратуры”, Максім Танк. Уладзімір Калеснік прысвяціў дзісенскаму суайчынніку вялікі нарыс “Талент працавіты”.



**На здымку з фондаў літаратурнага музея Янкі Купалы: Ян Гушча ў цэнтры (пяты ад Янкі Брыля) з Ядвігай Раманоўскай і ўлюбёнцамі Купалавай творчасці з розных рэспублік. Вязынка. 13.09.1972 г.**

# САМ-НАСАМ З СУСВЕТАМ

## НАСТАЛЬГІЯ ПА ЧАЛАВЕКУ, ЯКІ СУСТРЭЎ XXI СТАГОДДЗЕ

...ВЫ ВЕДАЕЦЕ, хто такі Алесь Адамовіч? Недарэчнасць гэтага пытання адукаваны чалавек палічыць за абразу. І ўсё ж... Пісьменнік? Літаратуразнаўца? Крытык? Публіцыст? Філосаф? Ён самадастатковы ў кожнай праяве, быццам у гэтай шматграннасці выказаў таямніцу жыцця так, як разумеў яго сэнс — “пытанне асабістае”, з “абавязковым адключэннем ад сумы людской, калі сам-насам са светам і з сабой” (з “Запісных кніжак”). Яму не патрэбны былі пасрэднікі — ён быў “сам”, увасабляючы ў багацці індывідуальнасці амаль забыты ў наш час тып гарманічнай асобы, немагчымы па-за непарушнай еднасцю ўсіх яе талентаў.

На вялікі жаль, лёс не надта лашчыць тых, каму дадзена многае, трагічным чынам кананізуючы факт рэальнага быцця асобы праз крыўдную нязДзейсненасць звычайнай чалавечай мары, што назаўсёды яднае зямное існаванне з недасяжнай сферай ідэалу. Ён можа быць побач — дакраніся рукой! — але сваім таямнічым прадвесцем сведчыць нешта сутнаснае па-за межамі нашай рацыяналістычнай свядомасці, як запаветнае жаданне А. Адамовіча сустрэць, адсвяткаваць з роднымі і сябрамі надыход новага веку. Цнатлівая непасрэднасць успрымання свету мужным чалавекам, барацьбітом, нібы выявіла ў трапяткім розгаласе дзяцінства сакральны акт сусветнай містэрыі, дзе гісторыя чалавецтва нарэшце перагарнула б не лепшую яе старонку і атрымала б шанц распачаць сябе з “чыстага” аркуша, адрадзіць парушаны пагрозай катастрофы кругаварот быцця, дзеля чаго А. Адамовіч ужо ахвяраваў сваю мару-жыццё, не выпадкова прыгадаўшы ў кнізе-споведзі, кнізе-рэквіеме “Vixi” прытчу грузінскага пісьменніка Эрлома Аўхледзіяні. Героі створанага казачнікам-філосафам апавядання “Агу” — замілавана клапатлівыя ля свайго першынца бацькі — паўстаюць сапраўднымі дзецьмі ў вачах немаўляці, што з дабрадушнай паблажлівасцю назірае за шчаслівай мітуснёй вакол сябе з вышыні боскай вечнасці, якая на кароткае імгненне самаўсвядомленага быцця знайшла сваю адпаведнасць у гэткім “Эйнштэйне-Фрэйдзе плюс Дастаеўскім у адной асобе”. Аднак фантастычная дасведчанасць апавядальніка, падсумаваўшы ў немаўляці ўвесь плён развіцця чалавецтва, без следу знікае ў першародстве вымаўленага дзіцячага “агу!”, пакідаючы непадуладную чалавечай памяці чыстую прастору жыцця, на якой трэба пачынаць усё спачатку: з адчуваннем нязбыўнага цяжару першароднага граху і наканаванай расплаты за яго. Але менавіта ў гэтай адвечнай супярэчнасці пачатку і канца А. Адамовіч шукае апірышча для годнага адказу на выклік часу, які бессаромна пагрэбаваў нашай спрактыкаванасцю ў маральным вызначэнні “добрага” і “дрэннага” і прапанаваў дылему, якая пагражае выштурхнуць гуманістаў і чалавеказнаўцаў “па той бок дабра і зла”, вядома, калі яны наогул наважацца растлумачыць, што такое НІЧОГА.

Ці не становіцца гэтым НІШТО... прыродная дасканаласць дзіцяці, абумоўленая ягонай тоеснасцю сабе, бо ўвасобленая біялагічная сутнасць не патрабуе аніякіх іншых матывацыяў і тлумачэнняў, набліжаючы ўсіх да некранута-белага аркуша фіналу, прадвызначанага той “дасканалай паўнатой”, што, паводле Я. Трубяцкога, вызваляе мэту свету ад фаталістычнага разумення яго канца, нават у смерці абвяшчаючы жыццятворны сэнс, які А. Адамовіч не спяшаеццца абвергнуць: “У чалавека няма абавязку нарадзіцца. Але памерці — абавязак кожнага. Вось і памры” (“Vixi”)? Альбо наканаваныя межы чалавечай экзістэнцыі размыкае апалогія абсурду, якую калісьці зрабіў падмуркам “Міфа аб Сізіфу” А. Камю, бо што яшчэ можна ўгледзець у сітуацыі, дзе жывая істота сведчыць сабой НІШТО? Несумяшчальны з завершанасцю абсурд сам па сабе ёсць факт альтэрнатывы, асэнсаваны А. Адамовічам у “Vixi” як успамін аб тым агульначалавечым здабытку, якім валодала дзіўнае немаўля, пакуль сакраментальнае “агу” не прымусіла шукаць паратунак у вар’яцкім (пасярод імперскіх муроў) прароцтве Касандры, аднаўляючы чаадаеўскае разуменне гісторыі як лагічнай паслядоўнасці падзей і ператвараючы яе саму ў альтэрнатыву прадбачанай непачутым празорліўцам небяспецы: пражыць жыццё — і не мець гісторыі.

Спаткаўшы “Дастаеўскага пасля Дастаеўскага” на пакутніцкім шляху жыхароў вогненных вёсак, якія не заўсёды нават усведамлялі сябе яе персанажам, А. Адамовіч ужо тады апынуўся перад выбарам, метафізічную сутнасць якога пазначыў М. Бярдзяеў, калі, выклікаўшы на філасофскі амбон “духаў рускай рэвалюцыі” (а ў іх патрапілі і Гогаль, і Леў Талстой, і Фёдар Дастаеўскі), рашуча запярэчыў бунту Івана Карамазава: вяртаючы Богу “білецік”, аплачаны адной-адзінай слязінкай дзіцяці, хіба не паспрыяў той чорту ў замаху на боскую правідэнцыяльнасць у самай жудаснай чалавечай трагедыі? Ісціна, справядлівасць, падпарадкаваныя карамазаўскай максіме (“усё дазволена”), настолькі ж далёкія ад маральных імператываў Дастаеўскага, наколькі не стасуецца з ідэямі Сусветнай гармоніі, якой аддана служыў расійскі спадчыннік беларускага радаводу, абыякавасць да слязінкі пакутуючага дзіцяці. І тым не менш: спакуса праведнай сілы, абумоўленай неабходнасцю выратавання, раз і назаўсёды пакарала чалавецтва, пазбавіўшы яго бессмяротнасці, калі раўнацэнным вынікам другой сусветнай вайны разам з перамогай над гітлераўскім фашызмам стала атамная бомба, з якой хіба што не вытыркнуліся да нянавісці знаёмыя вусікі фюрэра, менавіта так, у люстэрку сляпой безразважлівасці і вычарпанасці чалавецтвам усіх ранейшых нормаў, стэрэатыпаў паводзінаў, упершыню ўбачаныя А. Адамовічам у паваротнай не толькі для “ваеннага” літаратуразнаўства, але і ўвогуле нашай свядомасці кнізе “Нічога важней”. Свет уступіў у жорсткую спрэчку з колішнімі тлумачэннямі — сябе, і сцверджаны А. Адамовічам прыярытэт біялагічнага выжывання чалавецтва, што так дзіўна прагучаў з вуснаў гуманітарыя-літаратуразнаўцы, насуперак непахісным забабонам апанентаў набыў хаця б невялічкі, але шанц у непазбежнай тоеснасці матэрыяльнага і ідэальнага пачаткаў, якую яшчэ ўчора цяжка было ўявіць. А сёння адзін з патрыярхаў дакладных навук — акадэмік Б. Раўшэнбах слушна пераконвае, што і дух, і матэрыял з’яўляюцца “аднолькава першаснымі”.

Аднак, вітаючы свет як багавейную дадзенасць, ці лёгка самому ператварыцца ў неабвержную дадзенасць гэтага свету? Вядома, уласцівая адно дзіцяці здольнасць прымаць жыццё як падарунак-свята ўзнагароджвае яго натуральным, нязмушаным раўнапраўем з Сусветам, дазваляючы гаварыць пра сябе “ён” з годнасцю вартага павагі суразмоўцы. Але яно амаль непазбежна губляецца ў разумовым намаганні дарослага, у каго гэтае “ён” (пра сябе) азначае нязнойдзены пункт гарманічных узаемадачыненняў з жыццём у раўнавазе самакаштоўных велічынь, убачаных нібыта збоку, а ганарлівае какецтва, якое нішчыць саму магчымасць чалавека ізноў перажыць перажытае. І вось тады, калі перамога часу над асобным жыццём здаецца канчатковай, імгненная занатоўка больш чым 30-гадовай даўнасці — “Гэта я? Заўсёды сябе не пазнаеш у люстэрку. Як гэта многа — бачыць сябе” (А. Адамовіч, “Запісныя кніжкі”) — раптам выдае таго, хто не толькі дзеля сябе здолеў выкарыстаць шанц “адваротнай перспектывы”, у якой успрымае ўсё існае нармальны (паводле дасціпнага выказвання Б. Раўшэнбаха: “не дрэсіраваны нашай цывілізацыяй”) чалавек і малююць свет дзеці, яшчэ не навучаныя бацькамі і настаўнікамі, што “так нельга”.

Сапраўды, А. Адамовіч выпрацаваў свой “механізм пастаянства формы”, які на прыкладзе жывапісу апошнім часам цікава даследуе Б. Раўшэнбах (“Гармонія і алгебра”), даказваючы, што наша свядомасць бывае мацнейшай за законы фізікі, надзіва парушаныя менавіта адпаведнасцю вобраза прадмета яму самому (бо нават шар — даводзіць фізік Б. Раўшэнбах — у пэўнай пазіцыі адаб’ецца на сятчатцы вока не інакш, як эліпс, але ўспрымецца, як шар, у зафіксаванай мозгам чалавека форме). У А. Адамовіча гэтая адпаведнасць не прывяла да дыктату формы, але зрабіла культуру дзейснай падставай свету, якая найперш эстэтычным самаіспытам ратавала б чалавека ад пагібельнай тоеснасці сваім зямным наканаваннем. Знікненню традыцыйнай беларускай вёскі ён, упэўнены, што “жывое будзе жыць, знойдзе свае формы, сёння, можа, і нябачныя”, супрацьпастаўляў “кампенсацыю жыццястойкасці” ў літаратуры, якая “бярэ на сябе функцыю галоўнага рэзервуара, захавальніцы нацыянальнай традыцыі”. Заклік ствараць “звышлітаратуру”, гасіць пажар сустрэчным агнём перамагаў разгубленую незадаволенасць скептыкаў, а пляцоўкай гісторыі абіралася культура, дзе былыя ўладары імперыяў (Нерон, Гітлер, Сталін, Мао) выглядалі няўдалымі мастакамі і паэтамі, якія ператварылі ў крывавы тэатр жыццё і лёс мільёнаў. Але не дзеля пацешнага жарту культура станавілася альтэрнатыўнай версіяй гісторыі. Чалавецтва атрымлівала там магчымасць выбару, вызначальную для самой прыроды мастацтва, з якім зусім не жартаваў А. Адамовіч, калі ў “Vixi” нават смерць намагаўся зрабіць Падзеяй, запярэчыўшы сэнсам фізічнаму (незваротнаму) канцу, пераадоленаму ў шчырасці “адваротнай перспектывы”. Хто ведае, ці не ажыццявіўся нарэшце згаданы “механізм пастаянства формы” як “метапазіцыя” (Ю. Бораў), у пошуку якой спрадвеку знаходзяцца філосафы, адказваючы агностыку Канту з яго ідэяй “рэчы ў сабе” імкненнем вылучыць саміх сябе з меры рэчаў, адасобіцца ад Сусвету, каб быць вартымі дыялога з ім. Параўнальная з Архімедавым пунктам апоры, яна, аднак, утрымлівае А. Адамовіча ў заўсёдных каардынатах Чалавека, дзе трагізм справаздачы перад вечнасцю (“Ты ўжо тут, а ўсё — яшчэ там”) не адмаўляе развітальнай самаіроніі: “Ну, а псіхалагічна — мала думаю пра Падзею, нават калі і запісваю штодня, то нейк збоку: “Паўлаў працуе!..” (“Vixi”).

Першы значны твор А. Адамовіча — раман “Вайна пад стрэхамі”, напісаны, паводле сведчання аўтара-партызана, з адушаўленнем чалавека, што “выжыў, як бы жыве пасля смерці”, — ужо яскрава выявіў гэтую быційную перадумову, якая ашчаджае сябе ў перапетыях літаратурнага жанру, які больш за іншыя скарыстаў перавагі альтэрнатывы. “Раманам антычнасці быў эпас, а не тыя празаічныя “раманы”, што былі, — занатоўваў з гэтай нагоды А. Адамовіч. — Не задумваліся глыбока. Насустрач выбягалі Богі, і ўсё станавілася зразумела. І ў сярэднія вякі — Бог, якога не клікалі па кожнай дробязі, але ўсё ж... І вось, калі чалавек сам-насам са светам, задумаўся — раман”. У “Вайне пад стрэхамі” пісьменнік цалкам выключыў усялякае пасрэдніцтва паміж светам і чалавекам. І не толькі таму, што ў назве рамана, як прызнаваўся А. Адамовіч, закадзіравана здагадка аб працягу ў Айчынную вайну грамадзянскай, распачатай у 1917-м. Увесь свет, апанаваны нечуванай навалай, прыходзіць пад дах вясковай хаты, у гэтай уяўнай несувымернасці велічынь выкрываючы непазбежную жудасць і мярзоту вайны. У свеце пад роднымі стрэхамі няма куды збегчы ад яго маральных запатрабаванняў, схавацца ад сумлення ў хлусні, якой чалавек прызвычаіўся аздабляць “дазволеныя” злачынствы супраць падобных сабе. Для пісьменніка кампраміс тут мяжуе са здрадай, вытокі якой А. Адамовіч-навуковец бачыў у эстэтызацыі вайны мастацтвам і з гэтай прычыны вельмі крытычна ставіўся да сучасных ваенных эпапей, разглядаючы іх у якасці своеасаблівага “ахаладжальнага” прыстасавання ў літаратуры, дзе знікала набрынялая болем сувязь чалавека з Сусветам і выкрэсліваўся з арыфметычнага разліку траекторыяў гісторыі лёс чалавека-адзінкі, страта якога ўраўнаважвалася агульнай перамогай. Аднак ці не набліжаўся ў такім разе змардаваны ў пераможных бітвах народ да таго, каб самому здзейсніцца ў пасрэдніцтве паміж руплі ўцамі ідэі і жыццём на пабудаваным прадбачлівымі дабраходамі эшафоце?

Зрэшты, каб вырашыць абвешчаную мастацкую задачу, А. Адамовічу трэба было мець мужнасць прайсці і праз гэта, не вызваляючы чытача ад свядомага, асабістага выбару ўмоўнасцямі жанру. Вынік вядомы: з’явілася аповесць “Карнікі”, пакінуўшы ў разгубленасці і спрактыкаваных тэарэтыкаў, і звычайных чытачоў. Усе яны мусілі спраўдзіць сваё стаўленне да твора “сам-насам”, без “пасрэдніцтва” класічных тэорый і назапашанага жыццёвага вопыту, што траціў сваю бясспрэчную вартасць перад бездданню чалавечага падзення. Але галоўнае: твор, роўнага якому не было (і няма) у сусветнай антыфашысцкай літаратуры, надаваў статус вечнасці тэме, што па ўсіх прыкметах не сёння-заўтра павінна была стаць не больш чым успамінам аб мінулым. Пачварнае ў “Карніках” раптам паразумелася з трагічным, супраць чаго заўсёды паўставала класічная эстэтыка. Нечаканы сімбіёз (пачварна-трагічнае), бліскуча праанализаваны вучнем А. Адамовіча В. Жыбулем (“Беларуская проза аб вайне і класічная трагедыя”), уводзіў у зман многіх праніклівых даследчыкаў. Нават тых, хто, ацэньваючы здабыткі літаратуры савецкіх часоў з геаграфічнай і ідэалагічнай далечыні, часта вяртаў ім сапраўдны маштаб. Але, на жаль, не тады, калі вядомы заходнегерманскі славіст, прафесар В. Казак у знакамітым “Лексіконе рускай літаратуры XX стагоддзя”, які аб’яднаў пад адной вокладкай усе найбольш цікавыя, на погляд аўтара, з’явы на літаратурнай прасторы СССР, дакараў А. Адамовіча тым, што, маўляў, у “Карніках” ён “пісаў без любові і нават праз 50 гадоў не быў здольны дараваць”.

(Заканчэнне на 8-й стар.).



Мікалай Царкоў, заслужаны настаўнік, ужо пяць гадоў не працуе ў школе, дзе ён выкладаў выяўленчае мастацтва. Сёння яго разнымі работамі ўпрыгожаны многія будынкі ў Чэрыкаве. Не так даўно Мікалая Прохаравіча запрашаў нават мясцовы свяшчэннік — для аздаблення царквы. Мастацкія вырабы Мікалая Царкова экспанаваліся і на выставах у Магілёве.

НА ЗДЫМКУ: Мікалай ЦАРКОЎ.

Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.

# САМ-НАСАМ З СУСВЕТАМ

(Заканчэнне. Пачатак на 7-й стар.).

Любоў і нянавісць, як вядома, злучае адзін крок. І накірунак яго, дамінанту пачуцця вызначае, на думку А. Адамовіча, верагоднасць ператварэння ка́та ў ахвяру, неад'емная ад адчування чытачом "магчымасці тупігі-Гітлера"... у сабе. Трагедыя не толькі ў тым, што нелюдзі выйшлі з людзей. Пераступіўшы мяжу чалавечнасці, яны пазбавілі нас святога права-абавязку: дараваць. Кожны стрэл у бязвінную ахвяру забіў часцінку чалавечага "я" ў безлічы пакаленняў наперад, выхаладзіў душу, гэтай незваротнай стратай заручыўшы нас з вечнасцю. Усё так, але праўда нашага "недаравання" неўпрыкмет палоніць нас у пастцы, дбайна падрыхтаванай правадыром-"дублёрам" з аднайменнага, прысвечанага Сталіну раздзела аповесці, які па цэнзурных меркаваннях доўгі час не мог быць надрукаваны. Зняважыўшы хрысціянскі запавет, хіба не ствараем мы магчымасць ("Тупігі-Гітлера"?) паўтарыць злачынства ізноў, бо захоўваем у энергіі нянавісці знаёмую пагарду да чалавека, якім так лёгка ахвяравала грамадства, калі да віны пазбаўляла яго права на любое дараванне і быццам знарочыста майстравала з ахвяры — ка́та, з ваеннапалоннага, кінутага Радзімай на забаву ворагу, — здрадніка? Але ж хто наважыцца сёння дараваць тым, хто спатоліў сваю крыўду крывёю дзіцяці? Відаць, пазбыцца гэтай маральнай знямогласці нам не дадзена. Аднак, прынамсі, дадзена іншае: зразумець уласны стан як трагічнае занядбанне законаў божых і чалавечых і дасланць праклён вайне за новы (наш) круг пекла. Мінулае ўчапілася ў нас. Яго не ўлагодзіш перамогай. І нават літасць пераможцы не ўратуе самазваных гіпербарэяў, якія "ёсць найнешчаслівейшы народ", бо "ніколі не ўмеюць адчуць свае віны перад другімі..." (А. Адамовіч). У рэшце рэшт, безвыходнасць становішча, усвядомленая чытачом, і ёсць выйсце, той самы факт маральнага прагрэсу, над якім падчас працы над "Карнікамі" А. Адамовіч разважаў неаднойчы.

Відавочная залежнасць маральнага выніку аповесці ад пазіцыі чытача сцвердзіла яго ледзь не галоўнай эстэтычнай умовай твора, на шмат гадоў апярэдзіўшы цяперашнія гуманітарныя навацыі, пра якія ў апошні час найбольш аргументавана выказаўся акадэмік М. Маісееў. Заклапочаны разбуральным інфармацыйным хаосам спецыяльных ведаў аб свеце, ён супрацьпастаўляе колькасці засвоенай інфармацыі ўменне чалавека адэкватна рэагаваць на нестандартныя абставіны і падкрэслівае ролю гуманітарнай сферы, якой надаецца кшталт адмысловай метадалогіі, абгрунтаванай неабходнасцю не абумоўліваць свае ўчынкі сітуацыяй, а папярэджваць развіццё падзей. З гэтага пункту гледжання створаная адразу пасля Чарнобыля аповесць А. Адамовіча "Апошняя пастараль" ужо ўзбагаціла заўтрашні дзень, а пытанне наконт таго, як пабудавана антыутопія, сталася не менш важным, чым яе змест.

"Апошняя пастараль" узнікла ў разладзе прасторы і часу, які беларусам не ў навіну (нездарма і адамовічаўская "Вандэя" можа быць больш актуальнай для іх, чым для выхаваных на "Марсельезе" французаў). Беларусы смяротна стаміліся ад Чарнобыля, звыкліся з ім, дакладней — абараніліся абыякавасцю ад нязбыўнага жахлівага наслання. Аднак катастрофа, адолеўшы болевы парог свядомасці, нішчыць сваіх абраннікаў знутры, бо чалавечы свет — надзвычай хісткі прытулак для яе нялюдскай велічы. Без нагляду дапушчаная ў душу, яна ўшчэнт руйнуе яе ў пошуках адпаведнасці часу і прасторы па-за чалавекам. У "Апошняй пастаралі" А. Адамовіч адказаў на гэты выклік невядомасці. Ён не столькі палохаў чытача яе фантастычнымі жахамі, колькі спасцігаў перажытую чарнобыльцамі трагедыю развітання з жыццядайнымі стыхіямі — зямлёй, паветрам, вадой, атручанымі радыяцыяй. І хоць сам чалавек пачуваўся на вяршыні перакуленай піраміды, ён менавіта ў гэтым сапсаваным люстэрку дамагаўся адпаведнасці прасторы і часу, ратуючы ў абстрактных катэгорыях сваю маленькую надзею выжыць.

Пасля бомбы і Чарнобыля чалавецтва зазірнула за далягляд гісторыі, аднак і паспяшалася вярнуцца назад. Туды, дзе недарэчныя прэтэнзіі да антыутопіі накшталт умоўнасці абставінаў (востраў, немаведама як ацалелы на дне гіганцкай варонкі пасля сусветнага ядзернага катаклізму) ці разумова-лагічнай зададзенасці вобразаў (Ён, Яна, Трэці — любоўны трыкутнік, шматколернасць расаў і "перыядычная сістэма" прымхаў у адной мастацкай мадэлі, якая прывяціла Еву атамнай эры, цёмнаскурага амерыканскага астранаўта і савецкага падводніка) падаваліся больш натуральнымі, чым жаданне паверыць у наяўнасць рэальнага капітана атамнай (савецкай) субмарыны, які, перш чым націснуць на "кнопку" (калі іншыя ўжо націснулі), задумаўся б: ці даравальна далучаць рэшткі свету да калектыўнага самазабойства? Хутчэй за ўсё, крытыкаў А. Адамовіча не пераканаў бы і сам Вальтэр, які ў свой час паспрабаваў уявіць чалавека, чыя воля прымусіць памерці на другім канцы свету кітайскага мандарына.

Што ж, прастора ізноў паспрачалася з часам. Але з'ява ў канфлікце з уласнымі межамі безумоўна вярнула сабе эстэтычную вартасць: канон еўрапейскага Асветніцтва, упрыгожаны аўтарытэтам вялікага француза, утаймаваў невядомасць. Дык, мабыць, вяртанне да сябе і ёсць прарыў у тое вымярэнне, што сёння палохае чарнобыльскім бязмежжам? Знікненне пасрэднікаў паміж вечнасцю і чалавекам бянтэжыць. Меў рацыю А. Адамовіч: чалавек адзін, "колькі б побач ні было", — перад смерцю. Аднак і запярэчыў ёй, падпарадкаваўшы законы фізічнага існавання Падзеі, якая дагэтуль доўжыцца ў яго патрабавальным запыце: хто вы, чаго вартыя? Сам-насам. З Сусветам...

Іван АФАНАСЬЕЎ.

ДЛЯ ТЫХ, ХТО ЛЮБІЦЬ ПЕСНЮ

## КУПАЛИНКА

Апрацоўка М. КОРСАКА




Купалинка, купалинка,
Темная ночка,
Темная ночка,
Где ж твоя дочка?

Моя дочка во садочке
Розу, розу полет,
Розу, розу полет,
Белы ручки колет.

Цветочки рвет,
Цветочки рвет,
Венки завивает,
Венки завивает,
Слезы проливает.



Рэдактар
Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь;
Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі;
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзімы»).



НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.

Тэлефоны: 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 233-16-56, 213-37-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 1 832 экз. Індэкс 63854. Зак. 161.
Падпісана да друку 2.2.1998 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.